Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 28 (4931) 14 ліпеня 2017 г.


Ля калыскі Гарэцкага 5


Кот і люстэрка 6


Чытаем *e-books?* 7


«Паралелі» ў мастацкім тэкстылі 12


«Новая драма» Аляксандра Марчанкі 13

# #ЛЮБЛЮ КУПАЛУ

## У Вязынцы адсвяткавалі 135-годдзе Песняра

**Хто быў у Вязынцы, той памятае яе прасторы ды прыцягальнасць некранутай прыгажосці. На юбілей да Купалы наваколле ўпрыгожылі адмысловымі фотазонамі — альтанкамі ў кветках, агромністымі вянкамі, партрэтамі Песняра. На свае вочы бачыла, з якой радасцю і шчырасцю госці фатаграфаваліся на радзіме Янкі Купалы. Адчувалася еднасць, згуртаванасць ды сяброўства. Выпадковых людзей тут не было. Была грамада. Купалаўская. Як у вершах паэта.**

У Вязынцы адсвяткавалі 135-гадовы юбілей Народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. На малой радзіме класіка было шматлюдна і весела. Людзі прыязджалі на машынах і электрычках, выходзілі з вагонаў і дружна ішлі ў бок Купалаўскага мемарыяльнага запаведніка, спявалі песні, цытавалі вершы паэта. Завіталі і замежныя госці з Украіны, Расіі, Літвы... Прыехаў Павел Латушка, пасол Беларусі ў Францыі, пастаянны прадстаўнік Рэспублікі Беларусь пры ЮНЕСКА.

— Сёння творчасць Янкі Купалы — духоўны стрыжань сучаснай беларускай дзяржаўнасці, беларускага патрыятызму, разумення таго, што мы — нацыя. Дзякуючы творчасці Янкі Купалы, дзякуючы яго спадчыне існуе і развіваецца незалежная Беларусь, — паразважаў Павел Латушка.

Якое ж свята без паэзіі і жывога беларускага слова! Віктар Шніп, Міхась Башлакоў, Алена Стэльмах ды іншыя аўтары прачыталі свае творы, прысвечаныя Янку Купалу. У песнях прагучала Купалава паэзія ў выкананні беларускага Дзяржаўнага ансамбля «Песняры», салісткі беларускай Дзяржаўнай філармоніі Марыны Васілеўскай, фальклорна-этнаграфічнага ансамбля «Неруш», вакальнага народнага ансамбля «Асалода» з Маладзечанскага раёна.

Працяг на стар. 4 ►


*Фота Кастуся Дробава.*

*Вязынка святкуе!*


*Фота Вікторыі Аскера.*

*Падчас адкрыцця выстаўкі «Марк Шагал. Колер кахання».*

# КАХАННЕ ЗЯМНОЕ І НЯБЕСНАЕ

## адчуць праз творчасць Марка Шагала

**Імя Марка Шагала з гонарам гучыць ва ўсім свеце. Многія краіны не адзін год змагаліся за магчымасць называць мастака сваім. Беларусы гэтае права адстаялі і могуць ганарыцца, што менавіта наша зямля была натхненнем для майстра, менавіта беларускі Віцебск адгукаецца ў шэрагу яго палотнаў. Сёлета ўвесь свет адзначае 130-годдзе Марка Шагала, у розных краінах ладзяцца тэматычныя выставачныя праекты, спецыялізаваныя мерапрыемствы. Беларусь не засталася ўбаку: у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь прадстаўлена выстаўка літаграфій майстра «Марк Шагал: Колер кахання», якая захапляе тэматыкай, аўтарскай індывідуальнасцю і філасофскай глыбінёй.**

Працяг на стар. 16 ►

## Пункцірам

✔ «Відавочна, што сёння не ўсё залежыць толькі ад палітыкаў, кіраўнікоў дзяржаў, а прэса не толькі фіксуе падзеі. СМІ заўсёды называлі чацвёртай уладай. Але сёння, улічваючы ступень іх уплыву на грамадства, можна гаварыць пра больш значную ролю», — падкрэсліў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падчас адкрыцця пленарнага пасяджэння XIX Сусветнага кангрэса рускай прэсы «Партнёрства ў імя будучыні: прыярытэты сучаснай цывілізацыі». XIX Сусветны кангрэс рускай прэсы праходзіць у Беларусі ўжо другі раз. У сёлетнім форуме ўзялі ўдзел прадстаўнікі з 52 краін. Арганізатарамі кангрэса выступілі Сусветная асацыяцыя рускай прэсы, Міністэрства інфармацыі Беларусі, Фонд супрацоўніцтва з рускамоўнай прэсай — Фонд САРП. Паводле дадзеных Савета САРП, рускамоўныя газеты, часопісы, выдавецтвы, радыё, тэлебачанне існуюць цяпер у больш як 70 краінах свету.

✔ «Уся шматвяковая гісторыя беларускага народа красамоўна сведчыць пра тое, як высока мы цэнім мір і дабрабыт на роднай зямлі. Як беражліва ставімся да спадчыны мінулых пакаленняў і ўпэўнена будуем сучаснае і будучае сваёй дзяржавы. Глыбока шануем герояў, якія адстаялі незалежнасць Айчыны. Славім выдатных дзеячаў культуры, мастацтва, якія па праве з'яўляюцца гордасцю нашай Беларусі», — падкрэсліў Прэзідэнт Беларусі на рэспубліканскім святе «Купалле» («Александрыя збірае сяброў»). У пачэсным шэрагу, звярнуў увагу Прэзідэнт, — вялікія песняры Беларусі Якуб Колас і Янка Купала, юбілейныя даты з дня нараджэння якіх урачыста адзначаюцца сёлета.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка накіраваў спачуванне родным і блізкім народнага мастака СССР Ільі Глазунова. «Прыміце мае глыбокія спачуванні ў сувязі з адыходам з жыцця выдатнага мастака, педагога, грамадскага дзеяча і цудоўнага чалавека», — адзначыў Аляксандр Лукашэнка. Прэзідэнт падкрэсліў, што Ілья Глазуноў пражыў яркае і насычанае жыццё, дасягнуў сапраўдных прафесійных вышынь і ўпісаў незабыўную старонку ў гісторыю сучаснага выяўленчага мастацтва. «Яго творчасць атрымала ўсенародную любоў і павагу калег. Ён выхаваў некалькі пакаленняў маладых мастакоў і быў прыкладам самаадданага служэння сваёй Радзіме», — гаворыцца ў спачуванні.

✔ Калектывы з 14 краін бяруць удзел у XXII Міжнародным тэатральным фестывалі «Белая вежа», які гэтымі днямі ладзіцца ў Брэсце, паведамілі ў Брэсцкім акадэмічным тэатры драмы. Да ўвагі публікі — спектаклі 29 тэатраў з Беларусі, Венгрыі, Грузіі, Казахстана, Латвіі, Літвы, Македоніі, Польшчы, Расіі. Паказы адбываюцца на 11 мовах у суправаджэнні субцітраў. Большую частку праграмы тэатральнага свята складаюць драматычныя пастаноўкі — класічныя, эксперыментальныя, створаныя па творах сучасных аўтараў.

✔ Па 30 ліпеня Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі ўдзельнічае ў міжнародным тэатральным фестывалі ў горадзе Авіньён (Францыя). РТБД прадстаўлены двума міжнароднымі праектамі — прэм'ерным спектаклем «Гэта ўсё яна» Андрэя Іванова ў пастаноўцы нямецкага рэжысёра Монікі Дабраўлянскай і сумесным франка-беларускім праектам «Граніцы» ў пастаноўцы Аляксандра Марчанкі.

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# ШТО НОВАЕ СКАЖАМ?

**Прэзідэнт Беларусі даручыў павысіць эфектыўнасць інфармацыйна-ідэалагічнай работы з насельніцтвам у працоўных калектывах і па месцы жыхарства. З гэтай мэтай на дзяржаўным узроўні сфарміравана рэспубліканская інфармацыйна-прапагандысцкая група, у склад якой увайшоў і старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. Падчас пасяджэння прэзідыума творчай арганізацыі Мікалай Іванавіч падкрэсліў:**

— Саюз пісьменнікаў Беларусі — таксама інфармацыйная група. Гэта значыць, што сябры СПБ павінны актыўна выступаць у вайсковых часцях, школах, універсітэтах, іншых установах.

Але для такіх выступленняў трэба валодаць пэўнымі ведамі, каб кампетэнтна адказваць на пытанні аўдыторыі, і не саромецца гаварыць, акрамя ўсяго, пра дысцыпліну і адказнасць, пра чалавечыя ўзаемаадносіны. Увогуле, інфармацыйныя групы трэба стварыць ва ўсіх абласных і Мінскім гарадскім аддзяленнях СПБ.

Першы намеснік старшыні СПБ Алена Стэльмах распавяла пра падрыхтоўку да Дня беларускага пісьменства ў Полацку, дзе 2 верасня адбудзецца міжнародны круглы стол з удзелам замежных пісьменнікаў, да якога плануецца прымеркаваць спецвыпуск часопіса «Белая Вежа». У межах свята адбудуцца паўфінал і фінал рэспубліканскага конкурсу юных чытальнікаў «Жывая класіка».

Распавядаючы аб правядзенні рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай», старшыня Мінскага абласнога аддзялення СПБ Святлана Быкава зазначыла, што да акцыі актыўна спрычыніліся Мінаблвыканкам і Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі. Алена Стэльмах нагадала, што працягваецца і сумесная акцыя СПБ і ААТ «Белкніга», у межах якой запланавана шмат сустрэч з пісьменнікамі. Старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення СПБ Аляксандр Казека адзначыў, што да сумеснай акцыі з ААТ «Магілёўсаюздрук» падключыўся Магілёўскі абласны краязнаўчы музей. Анатоль Крэйдзіч азнаёміў членаў прэзідыума з вынікамі конкурсу «Скарынавай душой узлашчанае слова» (вынікі апублікаваны ў папярэднім нумары «ЛіМа». — **Я. Я.**).

Падчас пасяджэння прывіталі новых сяброў СПБ. Сярод іх — паэтэса і празаік Алена Кісель, паэт-песеннік Фёдар Баравы, дзіцячая пісьменніца Вольга Таляронак, паэтэсы Валянціна Габрусева ды Валянціна Драбышэўская.

**Яна ЯВІЧ**

## Актуальна

# Мацуем наша!

**За права стаць найлепшымі кнігамі года сёлета змагаюцца 40 выданняў. Гэта амаль удвая больш, чым было прадстаўлена на конкурс на атрыманне Нацыянальнай літаратурнай прэміі летась.**

У ліку твораў, якія найбольш цікавыя чытачам і якіх, на жаль, пакуль не хапае ў сучаснай айчыннай літаратуры, — расповеды пра жыццё маленькіх вёсачак і мястэчак, простых людзей. Гэтыя тэксты маглі б зацікавіць беларусаў, лічыць старшыня СПБ Мікалай Чаргінец. На думку Мікалая Іванавіча (што прагучала падчас прэс-канферэнцыі ў Нацыянальным прэс-цэнтры), нават той твор, які не адпавядае высокім патрабаванням, але напісаны таленавіта, мае права на існаванне і прызнанне, хай толькі на мясцовым узроўні.

Клопатам пра развіццё нацыянальнай літаратуры, выхаваннем цікавасці да кніг айчынных аўтараў жывуць не толькі школьныя настаўнікі. Падаецца, што гэта — агульная справа выдаўцоў, журналістаў, а найперш — саміх аўтараў. Сёння сябрамі Саюза пісьменнікаў Беларусі з'яўляецца каля 640 творцаў, якія жывуць і працуюць у розных рэгіёнах краіны. За мінулы год творцы прадставілі чытачам каля 300 новых кніг, і ўжо сёлета колькасць новых выданняў перавысіла 150.

Сябры Саюза пісьменнікаў актыўна ўдзельнічаюць у мерапрыемствах у межах рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай». У кожным раёне, школе, летніку ладзяцца сустрэчы з творцамі. Гэта не проста традыцыйныя спатканні з аўтарамі, але і магчымасць пазнаёміцца з казачнымі героямі іх твораў, пагуляць у гульні.

Так, першы намеснік старшыні творчай суполкі Алена Стэльмах распавяла, што сёлета ў Маладзечне напярэдадні фестывалю паэзіі і песні аўтары правялі мноства сустрэч на розных пляцоўках: у бальніцах, раённых электрасетках, школе мастацтваў.

— Гэтыя спатканні творцаў са слухачамі, чытачамі прайшлі ў вельмі шчырай, кранальнай атмасферы, — падзялілася Алена Анатольеўна. — Нам прыемна, што зараз актыўна папаўняюцца шэрагі паэтаў-песеннікаў. Не так даўно да творчай суполкі далучыўся Алег Жукаў, літаральна нядаўна мы прынялі ў саюз Фёдара Баравога. Гэтыя асобы падмацоўваюць нашы сілы, з іх дапамогай можам ладзіць выступленні і ў камерных аўдыторыях, і на вялікіх пляцоўках.

Несумненна, важным у жыцці Саюза пісьменнікаў Беларусі станецца сёлетняе Свята беларускага пісьменства. Тады ж будуць названыя лаўрэаты Нацыянальнай літаратурнай прэміі.

**Юзэфа ВОЎК**

# ВІЦЕБСК ВІТАЕ ГАСЦЕЙ



Адна з візітовак горада на Дзвіне, XXVI Міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску», распачаўся цягам тыдня. Учора прайшоў вялікі канцэрт, прысвечаны ўрачыстаму адкрыццю фестывалю. Гасцей Віцебска віталі зоркі беларускай і расійскай эстрады, а таксама харэаграфічныя калектывы і замежныя выканаўцы — Тамара Гвердцытэлі, Лайла Ібрагім (Егіпет), Крыс дэ Бург (Ірландыя), Хулія Іглесіяс-малодшы (Іспанія), Роза Рымбаева (Казахстан), Канстанцін Масковіч, *SunStroke* Project (Малдова), ансамбль «АЛІЛО» (Грузія), *LONDONBEAT* (Вялікабрытанія) ды іншыя.

Музычная праграма фестывалю вельмі разнастайная. Калі ўладальнік Гран-пры XV Міжнароднага дзіцячага музычнага конкурсу «ВІЦЕБСК-2017» ужо вызначаны, імя пераможцы XXVI Міжнароднага конкурсу выканаўцаў эстраднай песні «ВІЦЕБСК-2017» пакуль што застаецца невядомым. Сёння на сцэне канцэртнай залы «Віцебск» конкурсанты праспяваюць нацыянальныя хіты на роднай для іх мове, у суботу ды нядзелю выступяць са «Славянскім» ды «Фестывальным хітом» на галоўнай пляцоўцы — летнім амфітэатры. Акрамя музычных спаборніцтваў запланаваныя сольныя канцэрты Стаса Міхайлава, Валерыя Меладзэ, Ягора Крыда, груп «Руки вверх» і «Сплин», а таксама спецыяльныя праграмы: гала-канцэрт «Вітае Украіна», юбілейны канцэрт «Аляксандр Зацэпін. Ёсць толькі імгненне…» і творчы вечар ансамбля «Сябры» ў межах Дня Саюзнай дзяржавы.

Горад на Дзвіне сустракае наведнікаў фестывалю не толькі канцэртамі. Удзень аматараў тэатра запрашае «Лялечны квартал», па вечарах чакаюць «Тэатральныя сустрэчы» ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа і канцэртнай зале «Віцебск». Гістарычны цэнтр горада зоймуць прадстаўнікі III фэсту вулічнага мастацтва «На сямі вятрах»: з 14 па 16 ліпеня мінакі пабачаць перформансы вулічных артыстаў. Выставачная праграма фэстывалю мастацтваў складаецца з беларускіх і замежных праектаў. Падчас «Славянскага базару» арганізатары прадставяць гравюры Рэмбранта, сярэднявечныя «Кунтушовыя паясы», жывапіс, графіку, скульптуры Таварыства рускіх мастакоў Эстоніі, мастацка-гістарычны праект «Спадчына Еўфрасінні Полацкай» ды іншыя выстаўкі.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

**Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:**

**20 ліпеня** — *на прэзентацыю гістарычнага рамана Славаміра Антановіча «Дыверсант Сталіна» ў магазін «Белкніга» (вул. Сурганава, 46). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**14 ліпеня** — *у дзіцячую бібліятэку г. Вілейкі на творчую сустрэчу Віктара Кажуры з выхаванцамі дзіцячага аздараўленчага лагера «Вясёлка» (Вілейскі раён) у межах акцыі «Лета з добрай кнігай». Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**18 ліпеня** — *на творчую сустрэчу з Уладзімірам Рунцэвічам у ДУА «Дукорскі УПК дзіцячы сад — сярэдняя школа» (Пухавіцкі раён) у межах акцыі «Лета з добрай кнігай». Пачатак аб 11-й гадзіне.*

*З нагоды*

# СЛОВА І ДЗЕЯ

## Тэмай XXV Гарэцкіх чытанняў стала літаратурна-мастацкая і навуковая дзейнасць братоў Гарэцкіх

**Такім чынам аднаўляецца гістарычная справядлівасць, бо амаль на паўстагоддзя пісьменнік Максім Гарэцкі быў выкінуты з літаратурнай прасторы. Даследчыкі памятаюць, як складана было вярнуць яго імя ў культурнае жыццё Беларусі. Аднак, як у свой час трапна адзначыў літаратуразнаўца Ігар Жук, «літаратура жыва памятае вырваныя з яе творы, загубленыя лёсы яе стваральнікаў і трымае ўгатаванае для іх месца і выштукаваную “пад памер” матрыцу».**

Таму Гарэцкія чытанні заўсёды багатыя не толькі на цікавых дакладчыкаў, але і на шчырых сяброў, якія прыходзяць з добрым словам і да ўдзельнікаў, да гаспадароў-старшынь — прыкметных асоб беларускай навукі Радзіма Гарэцкага і Міхася Мушынскага.

Чым уразілі юбілейныя Гарэцкія чытанні? Усведамленнем таго, што ўжо зроблена ў галіне гарэцказнаўства. Папершае, становіцца зразумела, што імя Максіма Гарэцкага мае ўсе шанцы быць трывала ўпісаным у сусветны літаратурны кантэкст. Па-другое, відавочна, што ўсё большая ўвага надаецца братам Гарэцкім-лексікографам. Тон гэтаму напрамку ў даследаванні задае мовазнаўца Сяргей Запрудскі.

Уражвае грунтоўнымі разважаннямі Міхась Мушынскі. «Камандзір»-куратар на ніве гарэцказнаўства сказаў аднойчы, што драматургам варта звярнуць увагу на творы Гарэцкага — у Дзяржаўным тэатры імя Янкі Купалы з'явіўся спектакль «Дзве душы» па аднайменнай аповесці пісьменніка; адзначыў недастатковую даследаванасць публіцыстыкі Гарэцкага, якую можна наблізіць да журналістыкі, — калі ласка, чытайце артыкулы пра Гарэцкага-публіцыста.

Сёлета Міхась Іосіфавіч звярнуўся да даледчыкаў з прапановай больш уважліва ставіцца да ліставання братоў Гарэцкіх, да літаратурнай спадчыны Гаўрылы Гарэцкага, бо менавіта праз гэтыя, на першы погляд не самыя прыкметныя, дакументы мы можам прыйсці да ўсведамлення гістарычнай рэальнасці, што пральле святло на «прыхаваныя таямніцы» твораў Максіма Гарэцкага.

Заўсёды шчыміць сэрца, калі пачынае сваё выступленне Радзім Гарэцкі. Гледзячы на яго, уяўляеш, які ж слаўны быў род Гарэцкіх, як яны ўмелі паважліва ставіцца да людзей. Кожнае слова Радзіма Гаўрылавіча ў яго аповедзе пра бацьку ахутана цеплынёй, захапленем і павагай. Дзейнасць Радзіма Гарэцкага — гэта працяг дыялогу братоў Гарэцкіх з беларусамі, рэалізацыя іх задум і спадзяванняў.

Нават тыя літаратары, якія на пачатку сваёй творчасці выкарыстоўвалі імя і творы пісьменніка Гарэцкага для рэалізацыі ўласных амбіцый, сёння мяняюць сваю пазіцыю.

Гарэцказнаўства развіваецца, многа зроблена, аднак ёсць да чаго імкнуцца. Хацелася б мець збор твораў, больш, чым у 6-ці тамах, і зняць усе пытанні вакол існавання дома пісьменніка ў Малой Багацькаўцы.

**Вольга ГУБСКАЯ**

**Працяг тэмы на стар. 5** ►

*Вернісаж*

# Музыка прыроды

## ў творах Галіны Сушко

**У Музеі-сядзібе Міхала Клеафаса Агінскага ў Залессі, што на Смаргоншчыне, працуе персанальная выстаўка «Музыка прыроды» таленавітай маладзечанскай мастачкі Галіны Сушко.**



Фота Паўла Сапоцькі.

*Мастачка Галіна Сушко.*

Выпускніца Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, Галіна шмат гадоў працуе кіраўніком народнай студыі выяўленчага і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва Палаца культуры горада Маладзечна, актывіст дабрачыннага фонду «Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага». Шмат піша, ладзіць выстаўкі, дапамагае маладым талентам.

Творы, прадстаўленыя на выстаўцы, глыбокія, спакойныя, лёгкія. Аўтар бліскуча адлюстравала характво беларускай прыроды, родных краявідаў. Прывабліваюць вока заснежаныя палі, палеткі ў квецені, блакітныя аблокі, помнікі нашай мінуўшчыны: Маладзечанскае замчышча, рэшткі касцёла Узнясення Дзевы Марыі і святога Роха XV стагоддзя ў вёсцы Абрак, Залеская сядзіба. Мастачка выказвае шчырую любоў да Бацькаўшчыны, дэманструе глыбокую духоўную сувязь з Беларуссю.

Здавалася, быццам цудоўны парк Агінскага, што атачае шыкоўны палац, знайшоў працяг у творах Галіны. Ці наадварот. І гучыць музыка нашага славутага земляка Міхала Клеафаса Агінскага.

Удалая назвы выстаўкі — «Музыка прыроды». Сапраўды, кожны твор быццам іграе асаблівай мелодыяй, і глядач можа пачуць сваю ўласную, а можа, і стварыць, натхніўшыся творчасцю аўтара. Менавіта так і зрабіў краязнаўца, мастак і музыка Сяргей Верамейчык, падарыўшы ўдзельнікам вернісажа свой новы твор.

Павіншаваць мастачку на вернісаж з'ехаліся творцы з Мінска, Маладзечна, Смаргоні, Заслаўя… І кожны — з падарункам, таксама творчым: паэткі Людміла Кебіч і Таіса Трафімава — з вершамі, журналіст і кампазітар Ала Страшынская — з песняй, грамадскі дзеяч Таццяна Кляшчонак — з кнігай, а жывапісец Альберт Аўчыннікаў — незвычайна, але лагічна — падарыў набор акварэльных фарбаў. І шмат добрых слоў, цёплых успамінаў — шчыра і ад усёй душы!

**Павел САПОЦЬКА,**
**дырэктар мастацкай галерэі «Універсітэт культуры»**

# ЛіМ-каляндар

**10 ліпеня** — 95 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Бяляева (1922 — 2002), беларускага мастака дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, педагога.

**10 ліпеня** — 80 гадоў з дня нараджэння Міколы Капыловіча (1937 — 2000), беларускага празаіка.

**10 ліпеня** 70-годдзе адзначыў Уладзімір Папсуеў, беларускі скульптар.

**11 ліпеня** — 85 гадоў з дня нараджэння Анатоля Анікейчыка (1932 — 1989), беларускага скульптара, педагога, народнага мастака БССР.

**11 ліпеня** — 60 гадоў таму (1957) быў створаны Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы НАН Беларусі.

**12 ліпеня** — 95 гадоў з дня нараджэння Соф'і Лысенка (1922 — 2002), беларускага крытыка, літаратуразнаўца.

**13 ліпеня** — 120 гадоў з дня нараджэння Антося Галіны (сапр. Міцкевіч Міхаіл Міхайлавіч; 1897 — 1991), беларускага празаіка, публіцыста, перакладчыка, педагога. Жыў у ЗША.

**14 ліпеня** — 105 гадоў з дня нараджэння Анатоля Сапеткі (1912 — 1995), беларускага графіка.

**14 ліпеня** 90 гадоў адзначае Віктар Гаўрылаў, беларускі мастак дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, мастацтвазнаўца, педагог.

*Дайджэст*

• Скончыўся найбуйнейшы чэшскі кінафестываль у Карлавых Варах, які доўжыўся з 30 чэрвеня па 8 ліпеня. Галоўная ўзнагарода — «Залаты Крыштальны глобус» за лепшы фільм — упершыню за апошнія 15 год адышла да чэшскага рэжысёра Вацлава Кадрнкі за гістарычную драму «Маленькі крыжак». На 52-м кінафестывалі ў Карлавых Варах заўважнымі прызамі адзначылі дасягненні расійскага кінематографа: лепшым выканаўцам мужчынскай ролі назвалі расійскага акцёра Аляксандра Яцэнку (галоўны герой карціны Барыса Хлебнікава «Арытмія»), а «Вялікая прэмія» ў секцыі «Да Усходу ад Захада» дасталася стужкі Аляксандра Ханта «Як Віцька Часнок вёз Лёху Штыра ў дом інвалідаў». Узнагароды сапраўды ганаровыя: Карлаварскі фестываль значыцца ў спісе 15 самых прэстыжных кінафестываляў свету класа «А».

• Прэм'ерную серыю знакамітага амерыканскага тэлесерыяла «Гульня прастолаў» па матывах сагі пісьменніка Джорджа Марціна «Песня лёду і агню» можна будзе пабачыць у расійскім метро. У ноч з 17 на 18 ліпеня адна са станцый маскоўскага метрапалітэна ператворыцца ў імправізаваную кіназалу. Ініцыятыва — частка праекта «Ноч у метро», падчас якога станцыі плануюць выкарыстоўваць у асветніцкіх мэтах. Для дэманстрацыі на незвычайнай пляцоўцы абралі першую серыю сёмага сезона «Гульні прастолаў», якая выйдзе на экраны 16 ліпеня. Квіткі на мерапрыемства будуць разыграныя ў афіцыйных пабліках метрапалітэна Масквы, а таксама паміж аматарамі сагі. Бонусам для наведнікаў стануць акцёры ў вобразах герояў серыяла і фотазона з жалезным тронам.

• Урад Літвы вылучыў амаль 3 мільёны еўра для правядзення тэрміновых работ па ўмацаванні гары Гедыміна ў Вільні. Стан аднаго з галоўных сімвалаў літоўскай дзяржаўнасці ўжо даўно непакоіў неабыякавую грамадскасць. Схілы Замкавай гары пачалі разбурацца з-за апоўзняў, якія пагражалі захаванню вежы Гедыміна. Напрыканцы чэрвеня ліўневыя дажджы выклікалі значныя паверхневыя апоўзні на паўднёва-ўсходнім схіле. Віленская мэрыя зачыніла пешаходную дарожку, абвясціла надзвычайную сітуацыю з-за крытычнага стану гары і неўзабаве выдаткавала неабходныя сродкі на ўмацаванне схілаў Літоўскаму нацыянальнаму музею.

• Намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесь Суша паведаміў на сваёй старонцы ў «Фэйсбуку», што фрагмент выдання Скарыны, які захоўваўся ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы, не могуць знайсці ўжо шмат гадоў. Гаворка ідзе пра частку «Першай кнігі Царстваў» пражскага выдання першадрукара. Падчас візіту ў ЗША Алесь Суша даведаўся ад супрацоўнікаў бібліятэкі, што асобнік згубіўся, а копій, на жаль, не засталося.

• Былая першая дама Францыі Валеры Трыервейлер (у мінулым — рэпарцёр вядомага часопіса *Paris Match*) выдала раман «Сакрэт Адэлі», прысвечаны сяброўцы і музе аўстрыйскага мастака Густава Клімта Адэлі Блох-Баўэр. Упрыгожаны золатам партрэт маладой жонкі мецэната Фердынанда Блоха (вядомы пад назвамі «Залатая Адэль» ці «Аўстрыйская Мона Ліза»), які зараз знаходзіцца ў Нью-Ёрку, стаў адной з самых знакамітых карцін Густава Клімта. Дзеянне рамана «Сакрэт Адэлі» адбываецца ў Вене. Сюжэт кнігі пабудаваны вакол любоўнай гісторыі, падобнай да гісторыі галоўнай гераіні рамана «Мадам Бавары».

***Як вецер, як птушка, дзе сонца, дзе зоры,***
***Так рвецца, нясецца ўдаль думка мая;***
***Абымецца з небам, пакоіцца ў мора,***
***У вялікае мора людскога жыцця.***

**Янка Купала «Мая думка», 1910**

# ХАНГ І КУПАЛА

## *Касмічная музыка для вершаў Песняра*



*Вядучы купальскай «Ночы паэзіі» артыст Раман Падаляка.*

**Што патрэбна, каб юбілей шанаванага творцы атрымаўся адметным, яскравым святам? Добрая каманда, вынаходлівыя арганізатары, зацікаўленыя спонсары і агульны імпэт... Так здараецца не заўсёды, але Янку Купалу сёлета дакладна пашанцавала.**

Творцы, чыя прафесійная дзейнасць шмат гадоў праходзіць пад знакам Купалы, 6 ліпеня зладзілі для жыхароў сталіцы феерычны літаратурны вечар, які распачаўся ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі.

У фае гледачоў чакала выстаўка работ Аксаны Аракчэевай «Купалінка» — партрэты супрацоўніц Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. Побач з партрэтамі першага дырэктара музея Уладзіславы Луцэвіч, пляменніцы паэта Ядзвігі Раманоўскай, унучатай пляменніцы Янкі Купалы Жанны Дапкюнас — выявы сённяшніх захавальніц Купалавай спадчыны. Супрацоўніцы музея сустракалі гасцей у народных строях і купальскіх вянках. Вянкі сталі ўзнагародай для ўдзельнікаў невялікай вiктарыны: кожная «купалінка» падрыхтавала пытанне з геаграфічным ухілам па біяграфіі Яна Луцэвіча.

Каб павіншаваць дырэктара Алену Ляшковіч і іншых супрацоўнікаў Купалавага дома, на традыцыйную імпрэзу «Святкуем Купалле разам з Купалам» сабраліся добрыя сябры музея: дырэктар аб'яднання мемарыяльных музеяў у Латвіі Рыта Мэйніртэ, ганаровы консул Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Татарстан Расійскай Федэрацыі Сяргей Марудэнка, супрацоўнікі літаратурна-мемарыяльнага музея Міхаіла Булгакава (Кіеў, Украіна), музея Янкі Купалы ў сяле Пячышчы (Татарстан). Шаноўныя госці далучыліся да беларускіх гледачоў, якія завіталі на спектакль «Кругі раю» (рэжысёр-пастаноўшчык Святлана Навуменка). Гістарычная драма распавядае пра жыццё і смерць славутага паэта. Героі Купалавых твораў сустракаюцца з рэальнымі людзьмі, побач з вершамі агучваюцца цытаты з дакументаў 1920 — 1940-х гадоў — газетных публікацый, лістоў, пратаколаў допытаў...

Спектакль набліжаўся да завяршэння, а ў гэты час на ўтульнай тэрасе кавярні «Аўстэрыя Уршуля» распачыналася наступная літаратурная імпрэза. Мігценне свечак, лісцінкі папараці, ціхае цурчэнне вады ў знакамітым фантане Аляксандраўскага сквера… Атмасфера кавярні выдатна пасавала для паэтычных чытанняў, арганізаваных Нацыянальным акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы пры падтрымцы кампаніі «Бош Аўта Сэрвіс».

Творы Янкі Купалы чыталі Алена Сідарава, Андрэй Саўчанка, Валянціна Гарцуева, Міхаіл Зуй ды іншыя артысты тэатра. На працягу ліпеня пры звароце на тэлефонную лінію «Бош Аўта Сэрвіс» (8-044-5-806-806) усе кліенты ў якасці дадатковай опцыі могуць праслухаць творы вядомага паэта ў запісе. Вершы Янкі Купалы гучаць вельмі арыгінальна, бо музычным фонам да твораў сталі кампазіцыі, выкананыя на хангу — адмысловым музычным інструменце, вынайдзеным у Швейцарыі ў 2000 годзе. На купальскай «Ночы паэзіі» ханг зачараваў слухачоў касмічным гучаннем. Кампазіцыі, сугучныя па назве Купалавым вершам, выконвалі кіраўнік адзінай беларускай школы ігры на хангу Іван Крываносаў і Людміла Урбан.

— Мае вучні любяць эксперыментаваць, часта граюць пад вершы, і гэта атрымліваецца выдатна. Ханг — фанавае дапаўненне, якое надае цікавую афарбоўку літаратурным творам, — адзначыў Іван Крываносаў.

З чытаннем уласных твораў выступілі і беларускія паэты: Уладзімір Арлоў, Наста Кудасава, Уладзь Лянкевіч, Андрусь Такінданг... Разам з Янкам Купалам як герой некалькіх вершаў згадваўся Максім Багдановіч, а першым творам, прачытаным на Вольны мікрафон, стаў урывак з паэмы «Тарас на Парнасе». Такім чынам, удзельнікі свята ахапілі шырокі спектр беларускай паэзіі: з канца XVIII стагоддзя да вершаў, напісаных літаральна зараз. Публіка сустракала ўсе творы аднолькава добразычліва: вершаваныя радкі прамаўляліся ад душы, і выбар чытэльнікаў быў шчырым. Адкрыццём для слухачоў, магчыма, стала тое, што ў Янкі Купалы багата інтымных вершаў — не толькі просьбаў-зваротаў да дзяўчыначараўніц, але і твораў, напісаных ад імя жанчыны. Такія вершы выдатна пасавалі да купальскай ночы як магчымасць узгадаць, з якімі думкамі (хай сабе патаемнымі) святкавалі нашыя продкі самую кароткую летнюю ноч.

Супрацоўнікі Купалаўскага тэатра ўжо даўно збіраліся зладзіць «Ноч паэзіі» на тэрасе кавярні «Аўстэрыя Уршуля», і цікавасць кампаніі «Бош Аўта Сэрвіс» да юбілею вядомага творцы стала вызначальнай для арганізатараў мерапрыемства.

— 135-гадовы юбілей Янкі Купалы — адна з галоўных падзей гэтага года для Беларусі, і *Bosch*, як кампанія, якая працуе ў гэтай краіне, не магла застацца ўбаку. Тым больш, што ўласнае 135-годдзе кампанія мае адзначыць усяго праз чатыры гады, так што з класікам беларускай літаратуры яна амаль равесніца, — распавёў Дзмітрый Скакун, эксперт па развіцці сэрвісных канцэпцый «Бош Аўта Сэрвіс».

Кампанія *Bosch* з павагай і пашанай ставіцца як да ўласнай гісторыі і дасягненняў, так і да гісторыі і культурных здабыткаў кожнай краіны, у якой вядзе сваю дзейнасць. Таму і 135-гадовы юбілей Янкі Купалы беларускі офіс Bosch адзначыў гэтым адмысловым святам. Глыбокую ўдзячнасць кампаніі ад імя ўсіх аматараў беларускай літаратуры выказаў вядучы імпрэзы артыст Раман Падаляка.

— Калісьці паэзія збірала стадыёны, і цяпер яна таксама патрэбная. У гэтым я пераканалася дзякуючы нашай імпрэзе, — заўважыла адна з арганізатараў свята, загадчыца літаратурнай часткі Купалаўскага тэатра Вольга Бабкова. — На спектаклях я часам назіраю, як людзі рэагуюць на пастаноўку, і сёння па рэакцыі слухачоў магу сказаць, што ўсё атрымалася цудоўна, нягледзячы на халоднае надвор'е!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

**Фота прадастаўлена прэс-офісам аўтамабільнага аддзела кампаніі *BOSCH*.**

# #ЛЮБЛЮ КУПАЛУ

Назіраючы за святкаваннем, задумалася, а ці стаў Купала помнікам? Да яго прынеслі шмат кветак, паклалі іх да ног паэта як сімвал памяці і неўміручасці Асобы. Калі наблізіцца да помніка і стаць да яго спінай, можна ўбачыць на сваё вочы далягляд, які сузірае маўклівы, але са шчырай усмешкай, Пясняр. Я ўбачыла радасных людзей, яны танчаць і спяваюць песні. Жанчыны і дзеці вышываюць крыжыкам першыя літары сваіх імёнаў на калектыўным ручніку. Пасля даведалася, што гэта — на шчасце. Гандляры прапаноўваюць набыць кнігі на роднай мове, плеценыя з лазы кошыкі; посуд з гліны і парцэляны, распісаны адмысловымі ўзорамі. Наваколле напоўненае гукамі лета. І Купала жывы, неўміручы, дарагі наш Пясняр! Ён, гаспадар Вязынкі, запрасіў нас да сябе на свята. Думаю, яно не аднадзённае, а штодзённае. Бо словы Янкі Купалы, яго запаветы, якія пакінуў сваім нашчадкам-беларусам, гучаць праз дзесяцігоддзі і цяпер з вуснаў акадэмікаў, даследчыкаў, настаўнікаў, выкладчыкаў, паэтаў, музыкаў, супрацоўнікаў музеяў, журналістаў...

Купалу шануюць. Не толькі ў дзень яго нараджэння. Ад пачатку года ў Дзяржаўным літаратурным музеі імя Янкі Купалы прайшло шмат мерапрыемстваў, прымеркаваных да юбілею паэта, але ж шмат цікавага і пазнавальнага чакае і надалей. Варта вылучыць міжнародны выставачны праект "Янка Купала ў дыялогу культур", які прадстаўляе музейныя прадметы з фондавых калекцый Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. Дакументальныя памяткі пра асабістыя стасункі Песняра з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі розных народаў ужо пабачылі ў Польшчы, Украіне і Грузіі.

— Ужо 73 гады існуе Дзяржаўны літаратурны музей, які не толькі зберагае спадчыну паэта, але і далучае да яе многія пакаленні беларусаў. Нягледзячы на тое, што Янка Купала аддаляецца ад нас з кожным годам усё болей і болей, мы захоўваем памяць пра паэта. Юбілей Янкі Купалы адзначаюць і за межамі Беларусі. Напрыклад, у Львоўскім гістарычным музеі экспанаваўся выставачны праект «Будзь ЯК». У абрэвіятуры «ЯК» зашыфравана імя і прозвішча нашага народнага паэта. У Славакіі ў найбліжэйшы час плануецца ўсталяваць ажно чатыры мемарыяльныя дошкі ў гонар Янкі Купалы. Упершыню ў гісторыі сусветнай культуры імя нацыянальнага паэта будзе так маштабна ўшанавана ў іншай краіне. Лідскі піўзавод гатовы выдаткаваць грошы на мемарыяльную дошку ў гонар Янкі Купалы, якую ўсталююць каля фінскага вадаспаду Іматра. Купала наведаў яго ў 1910 годзе і прысвяціў гэтым мясцінам свой верш «Над Іматрай», — распавяла Алена Ляшковіч, дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея імя Янкі Купалы.

Свайго песняра памятаюць і беларусы замежжа. Грамадская арганізацыя «Федэральная нацыянальна-культурная аўтаномія "Беларусы Расіі"» пад кіраўніцтвам Сяргея Кандыбовіча выкупіла на аўкцыёне ўнікальны партрэт Песняра і падарыла Дзяржаўнаму літаратурнаму музею імя Янкі Купалы ў Мінску.



*Партрэт Янкі Купалы, падораны Сяргеем Кандыбовічам Дзяржаўнаму літаратурнаму музею імя Янкі Купалы.*

— Сіламі нашай нацыянальна-культурнай аўтаноміі мы імкнёмся рабіць унёсак у адраджэнне і развіццё розных аспектаў культуры беларусаў. Дагэтуль невядомы партрэт Янкі Купалы мы набылі летась у складзе лота ў Аўкцыённым доме ў Маскве. На вялікае шчасце і радасць, у ліку іншых гравюр мастака Івана Паўлава знайшоўся і партрэт Купалы 1931 года, — расказаў Сяргей Кандыбовіч. — Гравюра нашага класіка ўваходзіць у калекцыю з дванаццаці іншых работ, якія таксама цяпер захоўваюцца ў мінскім музеі як падарунак ад беларусаў Расіі.

Купала натхняе. Натхнее на стварэнне твораў не толькі літаратурных, але і мастацкіх. Каля кірмашу рамёстваў, сярод дрэў і зеляніны, убачыла рукатворны цуд — карціны, вышытыя змешанай тэхнікай. Прымацаваныя на вяроўку, яны віселі ў прасторы нібыта дыванкі. У работах з лёгкасцю можна пазнаць мясцовыя краявіды. Ніна Афінагенаўна Галаўкова, 78-гадовая жыхарка Вязынкі, ужо больш за дваццаць год стварае каляровыя шэдэўры, натхняючыся Купалавымі мясцінамі.

Пахадзіўшы, знайшла яшчэ аднаго творцу — мастака Андрэя Храмеля. Мужчына прывёз на кірмаш свае магнітыкі, зробленыя з бярозавай кары і адмыслова размаляваныя беларускімі пейзажамі. Спадар Андрэй расказаў, што яго натхняе няўменная, нібыта застылая ў часе, прастора Вязынкі.

— Калі аглядаеш наваколле, з'яўляецца адчуванне, нібыта знаходзішся ў запаведных, некранутых мясцінах. Галоўнае, што прымушае вяртацца ў Вязынку, — атмасфера тутэйшых мясцін. Яны нібыта жывыя, — расказаў Андрэй Храмеля.

Купала аб'ядноўвае розныя пакаленні, нагадваючы пра сямейныя каштоўнасці. Мусіць, невыпадкова сустрэлася з Марыяй Голубевай, былой выкладчыцай Маладзечанскай гімназіі. Жанчына прыйшла на штогадовае свята Купалы з мужам, дарослай дачкой і малымі ўнукамі. На памяці спадарыні Марыі 40 такіх святаў!

Купалу любяць. Любяць яго мясціны, вяртаючыся ў Вязынку на Гуканне вясны і Купалле, на свята нараджэння Песняра і на Багач. Віктар Шніп меў рацыю, калі напісаў, што «усе беларускія дарогі вядуць у Вязынку як у нашу Мекку».

Словы любові, як і словы падзякі, варта агучваць, каб не зачарсцвець душою. Але столькі ўжо было сказана! Не толькі паэту-юбіляру і яго зямлі, але і небу. У гонар 135-годдзя народнага паэта Беларусі Янкі Купалы ў паветра над Вязынкай запусцілі 135 паветраных шароў з хэштэгам «Люблю Купалу». Уявіце: наша прызнанне лунае над дрэвамі, а Купала глядзіць і ўсміхаецца. Бо ён жывы. Паэт побач з намі. Штодня.

**Марына ЯЎСЕЙЧЫК**

Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.

# Ад роду да асобы

*Песня мая не шукае чырвонцаў —*
*Будучнасць гэткіх не знойдзе ў ёй плям, —*
*Жыць толькі хоча ў радзімай староньцы,*
*Пецi па сэрцу ўсім добрым людзям.*

**Янка Купала «Песня мая», 1911**

**Пытанне стану Літаратурнага музея Максіма Гарэцкага ў вёсцы Малая Багацькаўка Мсціслаўскага раёна абмяркоўвалася на круглым стале ў Магілёве, што быў прысвечаны пытанням музеефікацыі літаратурных мясцін. Мерапрыемства ладзіў Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры ў межах Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «XXV Гарэцкія чытанні» на базе Музея гісторыі Магілёва. Заклапочанасць захаваннем памяці пісьменніка прадыктавана думкамі пра яго юбілей, што будзе адзначацца ў 2018 годзе. І ў рэзалюцыі Гарэцкіх чытанняў сёлета ёсць прапанова абвясціць у Беларусі 2018-ты годам Максіма Гарэцкага. Асаблівая ўвага — да мемарыяльных мясцін пісьменніка, у першую чаргу да месца, дзе ён нарадзіўся. Удзельнікі круглага стала віталі рашэнне ўлад Мсціслаўскага раёна захаваць Літаратурнаы музей імя Максіма Гарэцкага ў вёсцы Малая Багацькаўка, беручы пад увагу значнасць асоб Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх.**




**Дзмітрый Яцкевіч, дырэктар Дзяржаўнага музея беларускай літаратуры:**

— Згодна з Кодэксам аб культуры, наш музей — каардынацыйны метадычны цэнтр для музеяў падобнага тыпу. Мы мэтанакіравана праводзім іх маніторынг. На сёння падобных музеяў па краіне 5, і яшчэ 35 з'яўляюцца філіяламі іншых музеяў. Але не трэба забываць, што фактычна ў кожным краязнаўчым музеі ёсць старонка, прысвечаная сваім літаратурным дзеячам. На сёння маніторынг стану музея Максіма Гарэцкага ў Малой Багацькаўцы прыемна здзівіў: ён можа функцыянаваць, а праблемы ў яго тыя самыя, што ва ўсіх музеяў рэспублікі. Каб у гэтага музея былі наведвальнікі, неабходна вялікая праца як самога музея, так і мясцовых улад. Музей стварае пэўны прадукт, якім трэба зацікавіць людзей. Гэтая праблема стаіць не толькі перад філіялам Мсціслаўскага краязнаўчага музея ў Малой Багацькаўцы, але і перад усімі музеямі рэспублікі, у тым ліку перад нашым музеем, у якога 9 філіялаў. Наша задача — агульнымі намаганнямі прадумаць стварэнне такога прадукту, на які паедуць людзі не толькі з Беларусі, але і з-за мяжы. Гэта могуць быць самыя разнастайныя формы інтэрактыву: квэсты, музейна-педагагічныя заняткі, лекцыі. Яшчэ адна задача — распрацаваць розныя экскурсійныя маршруты з магчымым наведваннем шэрагу іншых аб'ектаў, якіх не бачаць наогул, напрыклад, археалагічныя, прыродныя помнікі.

Што тычыцца больш шырокага прыцягнення ўвагі да ўшанавання памяці Максіма Гарэцкага, то ў нас ёсць досвед арганізацыі перасоўных выставак у Латвіі, Эстоніі, Расіі. Асабліва яны карыстаюцца попытам там, дзе ёсць беларускія суполкі. Але найперш трэба думаць пра тое, каб памяць пра пісьменніка, які для нас — класік, жыла на радзіме. На жаль, той дом у Горках, дзе жыў, працаваў і сустракаўся са знакамітымі асобамі Максім Гарэцкі, знесены, і няма ніякага памятнага знака пра тое, што там было. Таму музей у Малой Багацькаўцы застаецца галоўным мемарыяльным месцам пісьменніка.


*Літаратурны музей імя Максіма Гарэцкага, філіял установы культуры «Мсціслаўскі раённы гісторыка-археалагічны музей».*

**Уладзімір Гілеп, старшыня Беларускага фонду культуры:**

— У сярэдзіне 80-х гадоў музейная справа ў Беларусі зрушылася, колькасць музеяў значна павялічылася: ствараліся музеі народнай славы. Ведалі, што гэта яшчэ толькі зародкі музеяў, але спадзяваліся, што пройдзе час, і яны ператорацца ў сапраўдныя музеі. Але гэта цэнтры, дзе можна выхоўваць людзей. Пачаць можна са сваёй вёскі, раёна. Бо ў кожным раёне ёсць знакамітасці, што вартыя ўшанавання, — нават увесь іх род... І калі ты адчуваеш, што цэлы род спрычыніўся да славы радзімы, воляй-няволяй задумаешся: а хто ты? Гэта магчымасць абудзіць у моладзі, у дзяцей пачуццё павагі да продкаў. Адсутнасць гонару за сябе, за сваіх прадзедаў спараджае да абыякавасць. Таму праца, што вядзецца музеем у Малой Багацькаўцы, вартая павагі. Але як зрабіць, каб туды паехалі? Магчыма, да музея будзе больш увагі, калі яго ператварыць у музей роду Гарэцкіх. Ці трэба хоць помнік які паставіць: тут зямля Гарэцкіх, тут магілкі, дзе мама з татам ляжаць… Важна паказваць: гэта геаграфія нашай культуры. Калі разглядаць пытанне пераносу музея з маленькай вёскі ў Мсціслаў, то варта задумацца пра тое, што мы знішчаем культурную прастору, культурную геаграфію. Разам са знікненнем вёсак ідзе іншы небяспечны працэс: мы збядняем сябе. Хто замінае на скрыжаванні дарог паставіць камень з прозвішчамі людзей, што жылі ў гэтай вёсцы? Тым самым захаваць нашы прозвішчы для гісторыі. Калі такое адбудзецца, калі мы зразумеем, што гэта наша беларуская геаграфія, у тым ліку прадстаўленая праз мноства дробненькіх музеяў, мы лепей пачнём разумець сябе як нацыя.

**Міхась Кенька, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры тэорыі літаратуры філалагічнага факультэта БДУ:**

— Музей — не музей, калі там няма ніякай разынкі. Яна магла б з'явіцца ў Малой Багацькаўцы, каб сапраўды стварыць музей роду Гарэцкіх. Калі я стаяў у хаце каля калыскі, думаў: тут жа ляжаў не толькі Максім Іванавіч, але і Гаўрыла Іванавіч. Колькі яны пабадзяліся, знішчалі дакументы, фотаздымкі, калі даведаліся, што Максім сядзіць. Толькі ў Дубоўкі некалькі фотаздымкаў захавалася. Я наслухаўся гэтых гісторый, калі працаваў у Інстытуце літаратуры Акадэміі навук і браў удзел у падрыхтоўцы збору твораў Гарэцкага ў чатырох тамах. Добра, што тады была жывая Галіна Максімаўна. Колькі яна нам дапамагла, як апекавалася памяццю бацькі! Яна баялася, каб збор твораў раптам не патрапіў пад забарону, бо тады яшчэ былі адчувальныя водгукі сталіншчыны. Цяпер гэтых перашкод няма. І думаю, што з'явілася магчымасць выдаць як мага больш поўны збор твораў Максіма Гарэцкага. І ў гэтым маглі б дапамагаць музейныя работнікі. Як у музеях Коласа, Купалы, Багдановіча: там не толькі прымаюць наведвальнікаў — у іх ёсць навуковы штат, яны захоўваюць рукапісы, працуюць як даследчыкі. І калі выдаваліся зборы твораў Купалы, Коласа, Багдановіча, музейшчыкі вельмі дапамаглі: знайшлі новыя матэрыялы. І па Гарэцкаму павінна весціся такая праца, каб не толькі захоўвалі, але і папаўнялі тую ж этнаграфічную частку. І каб апекаваліся ў літаратурнай справе. Важна, каб не знікала памяць пра пісьменніка. Каб музейныя і архіўныя работнікі знаходзілі нешта новае. Яшчэ не ўсе магчымасці вычарпаны ў пошуку спадчыны Максіма Гарэцкага.


*Экспазіцыя Літаратурнага музея імя Максіма Гарэцкага.*

**Віктар Аненкаў, дырэктар Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея імя Раманава:**

— Я падзяляю заклапочанасць наконт будучыні музея ў Малой Багацькаўцы. Думаю, правільна звязваць лёс музеяў з існаваннем перспектыўных ці неперспектыўных вёсак. Больш за 20 гадоў таму я бачыў, як стварыўся музей у Малой Багацькаўцы, як ён быў філіялам Рэспубліканскага музея беларускай літаратуры, а на пачатку 2000-х стаў філіялам раённага Мсціслаўскага музея. Калі там бываю, мне сумна, бо адна з умоў стварэння музея — наяўнасць калекцыі. Што мы маем у Багацькаўцы? Навароблены зруб хаты, збудаваны на пачатку 90-х гадоў, і набор тыпалагічных рэчаў. Ці ёсць хоць адзін мемарыяльны прадмет, які адносіцца да Гарэцкіх? Чым прыцягнуць наведвальніка?.. Літаратурны музей сваіх рэчаў з калекцыі не дасць, таму што няма ўмоў для захоўвання. А на лічбавыя копіі наведвальнікаў туды не зацягнуць. І чаму мы лічым, што музей — гэта адзіны варыянт ушанавання асоб, значнасць якіх ніхто не падвяргае сумневу. Акрамя музея можа быць помнік, можа быць мемарыяльная дошка. А працу па прапагандзе трэба весці з людзьмі, можна рабіць перасоўныя выстаўкі. Але ў такім стане, як цяпер, музей у Багацькаўцы свае задачы не выконвае, я не ўпэўнены, што тут можна дапамагчы геніяльны менеджмент: гэта не горад з пэўнай колькасцю насельніцтва, а вёска, якую не так проста ўключыць у турыстычныя маршруты.

**Дзмітрый Яцкевіч:**

— У Здраўнёва таксама навароб, і няма сапраўдных рэчаў. У Бычках — таксама новая хата. У дадзеным выпадку ў Багацькаўцы сабраныя рэчы, якімі маглі карыстацца і Гарэцкія.

**Антон Астаповіч, старшыня Таварыства аховы помнікаў:**

— Доля песімізму тут патрэбна. Я гэтую пазіцыю разумею. Сапраўды, трэба вельмі моцна працаваць, каб хоць мінімальна схема спрацавала на папулярызацыю, на прыцягненне наведвальнікаў. Са свайго досведу арганізацыі экскурсій скажу, што можна ўключаць падобныя музеі ў турыстычныя маршруты, і наведвальнікам насамрэч цікавая літаратурная гісторыя, звязаная са знакавымі асобамі, такімі як Максім Гарэцкі ці Алесь Адамовіч, на Магілёўшчыне. Але без вырашэння кадравай праблемы ў Малой Багацькаўцы музею Гарэцкага будзе складана існаваць і развівацца. Тым не менш добра, што ёсць разуменне таго, што музей трэба пакінуць: гэта мемарыялізацыя месца.

Удзельнікі круглага стала падтрымалі ініцыятыву стварэння музея Алеся Адамовіча ў вёсцы Глуша Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці, на які грошы збірала грамадскасць: ці не самае яркае сведчанне неабходнасці ўшанавання значных для краіны пісьменнікаў? Але гэта тэма асобнай публікацыі.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

**Фота прадастаўлены Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры,**

*Зялёнае поле рунеючым збожжам,*
*Цвітучая ў сонечны свет сенажаць*
*Мне песню квяцілі ўзорам прыгожым,*
*Вучылі, як словы, ў вянок завіваць.*

**Янка Купала «Мая навука», 1919**

# ПЕРЫФРАЗ СУЧАСНАСЦІ

Як бы часта ні вялася гаворка пра тое, што кніг сёння ніхто не чытае, літаратараў ад гэтага меней за апошнія сто гадоў не стала. Фэйсбук не можа замяніць усю прастору мастацкіх тэкстаў, хоць, як паказвае практыка, допісы ў сацсетках таксама могуць быць сабраныя ў адну кнігу і стаць цікавым творам. Літаратурны рух змяняе формы і ўмовы існавання, але працягвае развівацца. Пісьменнікі множаць словы і сэнсы. Прафесар філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта Іван Штэйнер, які апошнім часам выступае і як аўтар мастацкіх твораў, спрабуе данесці да чытачоў іншую думку: усё ўжо напісана, сюжэтныя магчымасці літаратуры вычарпаныя. А калі нехта і знаходзіць у творы сучаснага пісьменніка нешта новае, то толькі таму, што ён дрэнна абазнаны ў літаратурных здабытках папярэднікаў.



Іван Штэйнер прэзентуе кнігу «Кот-ваявода».

Менавіта такі падыход да ацэнкі стану і перспектыў прыгожага пісьменства варта мець на ўвазе пры чытанні філасофска-эратычнага рамана «Мая адзінота пачынаецца ў тваіх абдоймах» (пад псеўданімам Ульян Дэзідэрый, 2014) і смяхотнай штукі «Кот-ваявода» (2015) Івана Штэйнера. Сапраўды, калі разглядаць гэтыя кнігі, не ўлічваючы іранічнага, а часам і саркастычнага стаўлення аўтара да працэсу і выніку літаратурнай творчасці ў сённяшнім свеце, то яны застануцца незразумелымі. У абедзвюх кнігах багата цытат на лацінскай мове: выказванні старажытных філосафаў займаюць ледзь не палову тэксту. У гэтым няма адкрыцця, прыведзеныя крылатыя выслоўі вядомы філалагічнай публіцы. Аднак у гэтай відавочнай адсутнасці сэнсу акурат і крыецца аўтарская задума: паказаць, што мы не можам прамовіць нічога новага, каб не паўтарыць некага, любая глыбокая і арыгінальная думка, вобраз, метафара, параўнанне ўжо даўно агучаныя. І тое, што мы пра гэта не ведаем праз сваю недасведчанасць, не робіць нам гонару.

Смяхотная штука «Кот-ваявода» распачынаецца як сюжэт сучаснай «папсовай» камедыі: два зяці (Зяць-1 і Зяць-2), мужы родных сясцёр, даведваюцца, што цешча перад сконам атрымала багатую спадчыну, якую раздзяліла паміж сямейнікамі так, што… багацеем аказаўся акурат улюбёны кот Максім. Абураныя мужчыны спрабуюць аднавіць справядлівасць (то-бок прыўлашчыць спадчыну), а для гэтага трэба «аформіць» ката як юрыдычную асобу. Распачынаецца няпростая праца: кату спраўляюць пасведчанне аб нараджэнні, школьны атэстат, дамаўляюцца аб залічэнні яго студэнтам філіяла Лонданска-Маскоўскага прыватнага інстытута бізнесу і турызму, спрабуюць ажаніць, ствараюць медыцынскую картку, робяць пасведчанне кіроўцы, залічваюць сябрам партыі «Маладэмакратычны маладіберальны рух» (для маладых партыйцаў — «Мэтанакіраваны моладзевы рух»), нарэшце — сябрам пісьменніцкага саюза. І наладжваюць міжнародную навуковую канферэнцыю «Кот і чалавек: праблемы і перспектывы ўзаемадзеяння».

«За дзень Максім стаў сябрам таварыства ратавання на вадзе, ганаровым донарам, салістам хору ветэранаў працы, сябрам саюза мастакоў і тэатральных крытыкаў, ганаровым членам таварыства «Тавіз» (таварыства аматараў выпіць і закусіць). На тэлебачанні быў запланаваны цыкл перадач пра ката і ягоную выключную ролю ў грамадстве… Разам з таварыствам аховы прыроды, куды ўступіў Максім, усе выязджалі на паляванне». Гучыць абсурдна. І калі ўспрымаць сюжэт і аўтарскую задуму толькі на знешнім фармальным узроўні, то можнаператварыцца ў аднаго з герояў «смяхотнай штукі». Задума Івана Штэйнера, падаецца, — менавіта ў іранічным адлюстраванні звыклых рэчаў. Кожны этап надання кату Максіму статусу юрыдычнай асобы, праз які праходзяць Зяць-1 і Зяць-2, дазваляе аўтару прадэманстраваць глабальную ступень прафанацыі першасных сэнсаў.

Вядома, І. Штэйнер знаёмы з многімі праявамі жыцця, але найбольш ярка іранічнае падсвятленне выявілася ў грамадскіх сферах, найбліжэйшых прафесійнай дзейнасці аўтара: адукацыя, культура, навука. Чаго варты раздзел «*Populas me sibilat, at mihi plaudo* — Народ мяне асвістае, але я сам сабе пляскаю ў ладкі»! Такой канцэнтрацыі іроніі ў апісанні жыцця рэгіянальнага аддзялення саюза пісьменнікаў, бадай, не сустрэнеш больш нідзе. Вядома, зразумелае гэта ўсё будзе толькі літаратурнаму асяроддзю, а далёка не ўсім падабаюцца адбіткі ў люстэрку. Таму, бясспрэчна, многім пісьменнікам карціна падасца непраўдзівай. Аднак І. Штэйнер не выкрывае, а толькі прапаноўвае пасмяяцца ад душы — з усяго, што здаецца нам такім важным, што засціць радасць і сэнс жыцця: «Сакратар зараз знаходзіўся пад уплывам натхнення, яго раптоўна наведала Муза. Ён, звычайны вясковы хлопец, скончыў філфак, аднак не захацеў вяртацца ў палескую вёску, ігнаруючы школу і долю Лабановіча. Як вядома, усе пісьменнікі нараджаюцца на перыферыі, а паміраюць у сталіцы».

Тое ж датычыцца і апісання канферэнцыі, змест якой ахарактарызаваны як праслухоўванне «ўзнёслай лухты». Як часта ў якасці навуковых праблем, вартых даследавання, агучваюцца сёння неверагодныя па сваёй псеўданавуковай скіраванасці тэмы. Вядома, доктару філалагічных навук, прафесару, загадчыку кафедры сотні разоў даводзілася прысутнічаць на канферэнцыях, частка дакладаў якіх распачыналася менавіта так: «Мы імкнёмся паказаць вобраз Ката, гэтай паэтычнай і загадкавай істоты, амбівалентна, бо ў ёй спалучаны, арганічна і непадзельна, вялікі гуманістычны пачатак».

Цалкам адрозны ў тэматычным сэнсе, хоць у такім жа цытатна-іранічным стылі — філасофска-эратычны раман «Мая адзінота пачынаецца ў тваіх абдоймах». Нягледзячы на знешнюю зухаватасць, у творы многа пранізліва шчырага, шчымлівага. Гэты раман, паводле прызнання аўтара, — «спроба цэнтона» (цэнтон — твор, цалкам складзены з цытатаў з ужо вядомых мастацкіх тэкстаў). Іван Штэйнер перакананы, што немагчыма застацца арыгінальным, калі да цябе літаратура існавала тысячы гадоў, і рабіць выгляд, што ты адкрываеш нейкія ісціны — неймавернае глупства. Іван Штэйнер паслядоўна выкарыстоўвае «запаветы» Эклезіяста (няма і не будзе нічога новага пад сонцам) і Іосіфа Бродскага (паэт мусіць красці направа і налева і пры гэтым не мець згрызот сумлення).

Відаць, пры разглядзе цэнтонаў немагчыма абысціся без цытат, гэтыя тэксты — суцэльны перыфраз, ілюстрацыя да вывучэння інтэртэкстуальнасці. Аднак хоць у самой тэме кахання паміж сталым мужчынам і маладой дзяўчынай нічога новага, вядома, няма, аднак заўсёды застаецца прастора асабістага ўспрымання і кантэксту сучаснасці. За разгорнутым цытаваннем старажытных філосафаў чытачу ўсё адно бачыцца гісторыя, якая магла адбыцца толькі аднойчы ў пэўным месцы з пэўнымі людзьмі, то-бок не магла быць паўторанай, як немагчыма стварыць дакладную копію нейкага чалавека з тоесным наборам знешніх і ўнутраных характарыстык..

Апелюючы да мастацкіх здабыткаў сусветнай культуры, Іван Штэйнер падкрэслівае, што «мы — грамадзяне Еўропы, і яе культурная спадчына нашая на законных падставах». Такім чынам, Іван Штэйнер у сваіх цэнтонах прапаноўвае не новыя тэмы, але іншыя кірункі развіцця мастацкай літаратуры. Вядома, шмат хто будзе аспрэчваць меркаванне пра немагчымасць стварыць нешта новае, арыгінальнае, адметнае. Аднак і ў гэтых заканамерных пярэчаннях таксама няма нічога арыгінальнага.

**Жана КАПУСТА**

# Параненая памяць

**Кніжная серыя «Дзеці вайны», заснаваная выдавецтвам «Чатыры чвэрці», працягвае поўніцца новымі выданнямі. Сярод апошніх па часе выхаду — зборнік нарысаў і апавяданняў Уладзіміра Шулякоўскага «Жыццё за буханку хлеба» і аповесць Яўгена Каршукова «Заговорщики».**




У гэтай серыі выйшлі кнігі пісьменнікаў, якія нарадзіліся ў 1930 — 1950-х гадах і такім чынам сапраўды з'яўляюцца дзецьмі вайны: ваенныя падзеі альбо сталі першымі дзіцячымі ўспамінамі, альбо тым «кантэкстам», у якім праходзіла пасляваеннае дзяцінства. Анатоль Зэкаў, Леанід Левановіч, Міхась Пазнякоў, Казімер Камейша, Мікола Чарняўскі... Вылучаецца ў гэтым пераліку Зінаіда Дудзюк, якая нарадзілася ў 1977 годзе, і дзіця вайны — хутчэй яе маці, пра якую таксама вядзецца гаворка ў кнізе.

Аповесць Я. Каршукова адрасуецца найперш маладому пакаленню XXI стагоддзя. Галоўныя героі — хлапчукі-падлеткі, сем'і якіх жывуць на акупаванай тэрыторыі. У дзёрзкім юначым запале хлапчукі, асабліва самы старэйшы, Сенька, складаюць планы: як падацца ў партызаны, як трапіць на фронт. Дзіцячая ўпартасць нараджаецца з пабачаных на свае вочы жорсткасці, гвалту, забойстваў — зусім не дзіцячага доследу... Немагчыма падчас чытання не прыгадаць «Міколку-паравоза» М. Лынькова. Геройскія памкненні вясковых падшыванцаў падаюцца наіўнымі і нават часам смешнымі, аднак аўтар спачувае ім, захапляецца смеласцю іх думак і намераў і менавіта ў гэтым прапаноўвае сучасным падлеткам браць прыклад.

У. Шулякоўскі расказвае пра ваенныя падзеі ў Мінску і яго родным мястэчку Смілавічы: героямі твораў сталі рэальныя асобы, тыя, каго аўтар ведаў асабіста, з кім побач жыў альбо пра каго прынамсі чуў. Невялікія апавяданні, часам нават проста замалёўкі, не заўсёды прысвечаныя значным падзеям ці складаным лёсам, часам — гэта проста адзін дзень, адно імгненне, якое ўразіла водгуллем пранізлівага болю. Сапраўды, у апавяданнях, змешчаных у кнізе, толькі агульнымі рысамі акрэслена сюжэтная (жыццёвая) лінія, якая магла б разгарнуцца ў змястоўную аповесць, раман. Такое, напрыклад, апавяданне «Мая настаўніца Айша». Нездарма паводле гэтага твора кінастудыяй «Беларусьфільм» быў зняты аднайменны дакументальны фільм. Тут закранаецца не толькі тэма вайны: пісьменнік расказвае пра людскія лёсы ў няпростай віхуры грамадска-палітычных змен 1930-х гадоў, апавядае, як склаўся жыццёвы шлях герояў пасля заканчэння вайны, часам апісвае нават свае сустрэчы з імі ў сучаснасці. У кнізе часта закранаюцца складаныя тэмы, абмяркоўваць якія няпроста. Назва апавядання, прысвечанага ветэрану, школьнаму настаўніку астраноміі — Сяргею Маркаву — «Яго міннае поле» падаецца сімвалічнай. Адразу прыгадваецца верлібр Максіма Танка:

*Той, хто сказаў,*
*Што жыццё пражыць —*
*Не поле перайсці,*
*Відаць, ніколі*
*Не пераходзіў*
*Поля замініраванага.*

Тут ён сапраўды дарэчы: у творы распавядаецца пра тое, як размініраваць полі пад Крычавам пагналі сямнаццацігадовых вясковых хлопцаў, са ста васьмідзесяці шасці жывымі засталіся толькі дваццаць восем. Герою нарыса Сяргею Маркаву, які таксама быў сярод «сапёраў», пашчасціла выжыць, але тое «поле пад Крычавам пакінула ў яго сэрцы незагойную рану». У кожнага з удзельнікаў і сведак тых падзей у сэрцы — сваё ўласнае неразмініраванае поле, якое выбухае ўспамінамі і не дае ранам загаіцца.

**Яўген ГЛЕЧЫК**

# Папера супраць фармату *epub*:

## перспектывы развіцця электронных кніг у Беларусі

*Шум бору адвечнага казкавым сказам*
*Нашэптываў смутную повесць жыцця.*
*І песню ў шум-гоман захопліваў разам,*
*Заснуўшыя думкі будзіў з небыцця.*

**Янка Купала «Мая навука», 1919**



Калаж Алесі Ісы.

**Значэнне электроннай кнігі сёння пераацаніць складана. Мы прывыклі лічыць, што гэта з'ява — асаблівасць дваццаць першага стагоддзя, але мала хто ведае, што першы *e-text* датуецца 1971 годам. Кнігай-піянерам у электронным фармаце стала «Дэкларацыя незалежнасці ЗША». Гэта падзея паклала пачатак стварэнню праекта «Гутэнберг». Яго мэтай было распаўсюджванне электроннай універсальнай бібліятэкі.**

Першапачаткова адэпты электронных кніг кіраваліся добрымі намерамі: асветніцтва і клопат пра навакольнае асяроддзе. Сёння гэтая з'ява ўспрымаецца неадназначна. Што прынеслі *e-books* грамадству на самай справе?

У 2010 годзе ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый было праведзена пасяджэнне, прысвечанае лёсу друкаваных выданняў. Эксперты зрабілі прагноз, згодна з якім папяровыя газеты знікнуць ужо ў 2040-м. Генеральны дырэктар арганізацыі Фрэнсіс Гары выказаў наступную здагадку: «"Эвалюцыя" непазбежная — у ЗША кнігі на лічбавых носьбітах ужо прадаюцца лепш за папяровыя, а ў гарадах усё цяжэй знайсці бібліятэку». Такая заява выклікала рэзананс у грамадстве. Адзін украінскі журналіст трапна заўважыў, што папяровыя кнігі паўтораць лёс коней, якімі раней карысталіся замест машын: «Цяпер элітную скакавую пароду можа дазволіць сабе толькі багаты чалавек, так што пасля падзення попыту на папяровыя выданні кошт іх вырасце (бо вытворчасць стане даражэйшай) і яны будуць даступныя толькі найвышэйшым класам».

У Беларусі ў апошнія некалькі гадоў таксама павышаецца попыт на электронныя кнігі. Людзі прыходзяць да *e-book* з розных прычын: для кагосьці гэта спосаб бясплатна атрымаць інфармацыю, хтосьці гоніцца за зручнасцю і мабільнасцю, некаторыя змагаюцца за экалогію і такім чынам захоўваюць лес. Мабыць, ва ўмовах глабалізацыі працэс распаўсюджвання электронных кніг прадухіліць немагчыма.

Кнігі беларускіх аўтараў лёгка знайсці ў сеціве. Напрыклад, на бясплатным рэсурсе *knihi.com* — «Беларуская Палічка» сабраная значная частка класікі беларускай літаратуры. Творы знаходзяцца ў адкрытым доступе. Але як арганізоўваецца работа з сучаснымі пісьменнікамі? «Спецыфіка электроннай кнігі ў тым, што яна не патрабуе выдаткаў на паперу і не абмяжоўваецца пэўным накладам. У інтэрнэце месца хопіць для ўсіх», — адзначае Андрэй Янушкевіч, дырэктар выдавецтва «Янушкевіч А. М.», якое вельмі актыўна працуе менавіта над стварэннем электронных кніг. Вядома, для пісьменніка па-ранейшаму застаецца важнай традыцыйная папяровая кніга, аднак на карысць выдання новых твораў у электронным фармаце «працуюць» найперш два аргументы. Папершае, пашырэнне геаграфіі (кнігі нашых сучасных аўтараў становяцца даступнымі для замежжа) і патэнцыйнага кола чытачоў (сёння, калі нават не ў кожным раённым цэнтры ёсць кнігарня, гэта сапраўды актуальна). Па-другое, праз стварэнне электроннай версіі можна даць другое дыханне кнігам, якія выйшлі раней і наклад якіх разышоўся.

> *На цяперашні момант самы папулярны фармат электроннай кнігі ў Еўропе — epub. У Беларусі сітуацыя іншая: у нас большы распаўсюд мае фармат fb2. Хутчэй за ўсё, гэта звязана з тым, што ён чытаецца ўсімі прыладамі, нават самымі «старажытнымі».*

На цяперашні момант самы папулярны фармат электроннай кнігі ў Еўропе — *epub*. У Беларусі сітуацыя іншая: у нас большы распаўсюд мае фармат *fb2*. Хутчэй за ўсё, гэта звязана з тым, што ён чытаецца ўсімі прыладамі, нават самымі «старажытнымі». На другім месцы для беларусаў — *mobi*, які падыходзіць для *iPhone* і распаўсюджаных электронных кніг — *Amazon Kindle*. Паводле назіранняў А. Янушкевіча, *epub* карыстаецца меншым попытам, але заваёўвае ўсё новыя пазіцыі.

Часам падаецца, што беларускі чытач не гатовы плаціць грошы за электронныя кнігі, калі іх можна бясплатна спампаваць з інтэрнэту. «Тут павінны працаваць тыя ж механізмы, што і ў іншых краінах. Гэта пытанне агульнай культуры: выдавецтва не проста прадае электронныя кнігі са згоды аўтараў, але плаціць ім ганарары. Набываючы кнігу ў інтэрнэце, чытач насамрэч падтрымлівае пісьменніка, — тлумачыць Андрэй Янушкевіч. — Перспектывы электонных выданняў шырокія. Беларускае грамадства ў гэтым сэнсе нічым не адрозніваецца ад іншых: у нас чытаюць усё тое, што карыстаецца попытам у іншых еўрапейскіх краінах. Аднак у нас кнігі цяжка даходзяць да аўдыторыі, таму што слаба развітыя масавыя жанры, якія патрэбны любой літаратуры: дэтэктывы, фантастыка, фэнтэзі, любоўны раман. Відавочная праблема з кантэнтам, але мы робім стаўку на маладых аўтараў, на дэбютантаў. Мэта — наблізіць беларускую кнігу, беларускую літаратуру да шараговага чытача».

Цяпер вакол электронных кніг шмат дыскусій. Спрэчкі не толькі сярод чытачоў, але і сярод пісьменнікаў. Аднак, мяркую, якасны літаратурны твор будзе мастацтвам на любым носьбіце. Папяровая старонка або электронны экран не мяняе сэнсу таго, што чытае чалавек. Носьбіт толькі стварае эфект: гэта як фарматы *3D/2D*, толькі тут камфорт і мабільнасць дыктуюць адваротную дынаміку і спрашчэнне. Але факт застаецца фактам: папяровыя асобнікі будуць друкавацца яшчэ доўгі час, таму што ў гэтым ёсць патрэба.

**Яна МУСВІДАС**

# Доўгая дарога да кнігі

**У серыі «Галасы Айчыны» выйшаў доўгачаканы двухтомнік бадай самага яркага паэта 1920-х гадоў, аднаго з заснавальнікаў і актыўнага сябра літаратурна-мастацкага згуртавання «Узвышша» Уладзіміра Дубоўкі. Сродкі на выданне збіраліся праз краўдфандынгавую пляцоўку *Talaka.by*. У галерэі *Tut.by* адбылася прэзентацыя, у якой узялі ўдзел пісьменнікі, навукоўцы, даследчыкі гісторыі беларускай літаратуры, архівісты, выдаўцы Аляксандр Фядута ды іншыя. Алесь Камоцкі прадставіў удзельнікам імпрэзы музычнае ўвасабленне перакладзеных У. Дубоўкам на беларускую мову санетаў Шэкспіра.**

На сёння гэта самае поўнае выданне твораў У. Дубоўкі: тут змешчаны вершы, проза, паэмы, артыкулы, лісты, пераклады, архіўныя матэрыялы. «Нарэшце кніга пачала жыць самастойным жыццём. Але гэта не магло ажыццявіцца без плённага супрацоўніцтва з Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва. Асаблівую цікавасць выклікаюць у абазнанага чытача пераклады санетаў Шэкспіра, паэм Байрана і паказанні Уладзіміра Дубоўкі падчас допытаў па справе так званага Саюза вызвалення Беларусі», — адзначыў ініцыятар праекта і ўкладальнік двухтомніка, супрацоўнік Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Дзмітрый Давідоўскі. У падрыхтоўцы выдання ўдзельнічалі таксама Міхась Скобла і Віктар Жыбуль.

Аўтар прадмовы, паэт і даследчык беларускай літаратуры Ірына Багдановіч расказала пра сваё знаёмства з творчасцю Уладзіміра Дубоўкі і падкрэсліла, што неабходнасць выдання поўнага збору твораў выдатнага паэта, мысляра, крытыка, грамадскага дзеяча, шматбаковага чалавека, беларускага адраджэнца была для яе відавочнай яшчэ ў канцы 1980-х — пачатку 1990-х гадоў. «Зразумела, што збор твораў Уладзіміра Дубоўкі можа быць намнога большы, — адзначыла Ганна Запартыка, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, дзе захоўваецца асабісты фонд паэта (ён мае тры вопісы — гэта каля тысячы дакументаў). — Акрамя гэтага, дакументы, што ўдакладняюць жыццёвы і творчы шлях У. Дубоўкі, ёсць у фондзе літаратурнага аб'яднання «Маладняк», многіх асабістых фондах, нешта захоўваецца ў фондах Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь». Каштоўнымі ўспамінамі падзяліўся акадэмік, доктар геолага-мінералагічных навук Радзім Гарэцкі, чый бацька — навуковец, адзін з заснавальнікаў і першых правадзейных членаў Акадэміі навук — Гаўрыла Гарэцкі быў блізкім сябрам Уладзіміра Дубоўкі.

Дырэктар выдавецтва «Лімарыус» Марына Шыбко распавяла пра няпрости і доўгі (даўжынёй у сем гадоў) шлях кнігі да зацікаўленага чытача. На жаль, выданне мае вельмі сціплы наклад — усяго 200 асобнікаў, таму на паліцах кнігарняў яно не з'явіцца, а будзе распаўсюджвацца толькі сярод падпісчыкаў. Адначасова ў «Лімарыусе» выйшла ўкладзеная Ганнай




Севярынец дакументальная кніга «Уладзімір Дубоўка. Ён і пра яго», якая чакае пакупнікоў.

**Яўгенія ШЫЦЬКА**



Алена
ШЧАРБАКОВА

***

*Жыццё — як песня, як сузор'е*
*Ў блакіце-шэрасці нябёс.*
*Там Бог малюе не надвор'е —*
*Яскравы чалавечы Лёс.*

*І кожны з нас у свет прыходзіць,*
*Каб выканаць малюнак той:*
*Калі патрэбна адыходзіць —*
*Багацце не забраць з сабой.*

*Што Лёсам нам наканавана?*
*Адно імгненне — ўсё жыццё.*
*Мы мітусімся апантана,*
*А потым? Потым — забыццё.*

*Калі ж нам раніцай убачыць*
*Не мітусню, а прыгажосць?*
*І як нашчадкам растлумачыць,*
*Што не заўсёды гэта ёсць,*

*Што шанаваць заўсёды трэба*
*Ўсё тое, што дае нам Лёс:*
*І непаўторны водар хлеба,*
*Надвор'е, сонейка з нябёс?*

*І нават калі боль трываеш —*
*Жывеш, і дзякуй мастаку.*
*А калі ў хаце нешта маеш —*
*Спатрэбіцца ў тваім вяку.*

*Жыццё адно, дарунак божы,*
*І пражывеш «як мае быць».*
*Няхай Гасподзь нам дапаможа*
*Трываць, кахаць, цікава жыць.*

***

*Рамонак — сонечная кветка*
*І лета прыгажосць у збане.*
*Мы пакідаем горад рэдка,*
*Каб бачыць Сонейка вітанне.*

*Рамонак — кветка-чараўніца,*
*Яго пялёсткі — быццам вейкі.*
*Заплюшчыш вочы — сон прысніцца,*
*Дзе твар прыгожай чарадзейкі.*

*Ты зоркі лічыш над сабою,*
*Ты вельмі рады падарожжу…*
*Накрыўся небам з галавою:*
*Утульна, ціха і прыгожа.*

*А летам ноч — на паўгадзіны,*
*І праз яе амаль не спіцца.*
*Перад табой сюжэт адзіны:*
*Аблічча юнай чараўніцы.*

*Калі ж ты вернешся дадому —*
*З табой натхненне застанецца.*
*…Званочак срэбны, гук знаёмы…*
*Ты чуў яго ужо, здаецца.*

*«Пабудзь са мною, калі ласка…»*
*Была дзяўчына толькі мрояй...*
*Дадому вернешся — бы з казкі,*
*Якую возьмеш ты з сабою.*

***

*Рамонкі на полі красуюць прыгожа,*
*Іх кветкі — як сонейка дыск залаты.*
*Прасторы паклічуць цябе*
*ў падарожжа —*
*Пабачыць, адчуць, зноў вярнуцца сюды.*

*Зямля — прыгажуня, ад краю да краю:*
*Лясы і пагоркі, палі, сінь вады…*
*І сонейка ў небе штодзень я вітаю,*
*І свет наш здаецца такім маладым!*

*Цікава глядзець на зямныя прасторы.*
*О, колькі яшчэ нас чакае прыгод!*
*А там, дзе красуюць высокія горы,*
*Жыве вельмі шчодры, гасцінны народ.*

*І зноў вандраваць нам,*
*і зноўку вяртацца —*
*Пабачыць краіны, людзей, гарады…*
*І верыць мы будзем, і ўсё ж спадзявацца*
*Ў мінулае зноў зазірнуць праз гады.*

***

*У сонечных бліках праз крону каштана*
*Я бачу чароўны і радасны свет.*
*Там продкі жывуць. Ім заўсёды пашана,*
*Старанна выконваю іх запавет.*

*І «дзякуй» кажу ім за мірнае неба,*
*За мір у краіне на столькі гадоў,*
*За радасць жыцця, водар смачнага хлеба;*
*Жыву, вывучаю выток каранёў.*

*Пакуль ты жывы — можаш*
*нешта паправіць*
*І мудрасці продкаў скарыначку ўзяць.*
*Ў гісторыю краю, народную памяць*
*І штосьці сваё назаўсёды дадаць.*

*У нашай краіне ўрадлівая глеба:*
*Жывеш, вывучаеш сцяжынку сваю*
*І ведаеш: мабыць, такая патрэба...*
*Я край сінявокі свой шчыра люблю.*

# ЗАЧАРАВАНАЯ ЧАРОМХА

**Прысвячаецца жонцы Святлане**



Уладзімір
ЦАНУНІН

## Бярозавы гай

*Я цябе зачароўваў гітараю*
*У бярозавым белым гаі.*
*Месяц поўняю выплыў над хмарамі,*
*І замоўклі зусім салаўі.*

*Сыпаў я выпадковымі словамі*
*Не аб тым, што на сэрцы было,*
*Бо бліскучыя вочы вішнёвыя*
*Ўжо даўно зацягнулі ў сіло.*

*Гай бярозавы поўніўся гукамі*
*І штурхаў да вар'яцтва мяне.*
*Сэрца гучна і радасна стукала,*
*А пасля, нібы ў казачным сне,*

*На зары галасы салаўіныя*
*Нас каханнем вянчалі дваіх.*
*Як закляцце, мне памяць пакінула*
*Шэпат вуснаў гарачых тваіх.*

## Зара над Басяй

*Зара ружовай хваляй узнялася,*
*Смалой бурштынавай пырснула на хвоі,*
*Прабегла па люстэрку срэбным Басі*
*І ў лузе задрамала за ракою.*

*Яе на крылы ўзняў гарэза-вецер.*
*Заслухалася птушак галасамі*
*І трапіла ў бярозавыя сеці*
*Гайка за ціхай вёскаю — Сушчамі.*

*Загойдалася ў тонкіх вершалінах.*
*На ўзгорак разам з ветрам уздыхнула.*
*Сарваўшыся ў блакіт пяшчотна-сіні,*
*Жаўручай песняй далі схамянула.*

*Праз хвілю распусціла промняў косы,*
*Туману знесла белыя аблокі,*
*Пад гімн птушыны велічна, узнёсла*
*Ўзышла над краем сонцам яснавокім.*

## Каханай

*Абдымаю цябе, як бярозу,*
*Заглядаю ў бяздонне вачэй.*
*Бачу ў іх, быццам пацеркі, слёзы.*
*І ад гэтага мне не лягчэй.*

*Ты са мною заўсёды сумуеш.*
*А чаму? Хіба я не такі,*
*Як хацела б, каханая? Чуеш?*
*А ў адказ толькі подых цяжкі.*

*Ці другога сустрэла ты часам?*
*Адкажы, не палохай мяне.*
*Я з табою жадаю быць разам…*
*Але ў голасе чуецца снег.*

*Ці мне гэта ўсё толькі здаецца?*
*Ты нарэшце развей гэты сум,*
*Каб не мучыць уласнае сэрца,*
*Адагнаць надакучлівасць дум.*

***

*Скроні снегам гадоў замяло.*
*Сэрца ранкам дае часта збой.*
*Толькі ўспомні, як добра было*
*У юнацтве нам разам з табой.*

*Успамін абаіх нас нясе*
*Пад сваё залатое крыло.*
*Басаногім ляцеў па расе,*
*Як па зорках, аж млосна было.*

*Ты мне быў па-суседску як брат.*
*І мы разам калісьці з табой*
*Праз чарот цікавалі дзяўчат*
*На рацэ пад кудлатай вярбой.*

*Сябра мой, што ты робіш цяпер?*
*Як жывецца табе на зямлі?*
*Бо сумую я зараз, павер,*
*Што гады так нябачна прайшлі.*

*Ды зваладаем з гэтай журбой.*
*Нам далёка яшчэ да зімы,*
*Бо ўжо нашы нашчадкі з табой*
*Шкодзяць тут, як калісьці і мы.*

## Ліпеньская ноч

*Дагарала цяпельца дрыготкае,*
*Цёплы водар ішоў ад вады.*
*Гэтай ліпеньскай ночкай кароткаю*
*Ты здзівіла мяне назаўжды.*

*Над зялёнай лясною палянаю*
*Зоркі падалі, нібыта ў сне.*
*Неразгаданай кветкай духмянаю*
*Прытулілася ты да мяне.*

*Нібы моцнай салодкаю кавою*
*Апаіла мне сэрца тады.*
*Твае цёплыя рукі ласкавыя*
*Не забуду ніяк праз гады.*

*Неба з хмаркі падглядвала поўняю.*
*Проня ціха між вербаў плыла.*
*Ах, якой жа была ты чароўнаю!*
*Ах, якой жа жаданай была!*

## Васількі

*На полі каля берага ракі,*
*Дзе летні ранак густа сее росы,*
*У золаце жытнёвым васількі —*
*Кавалачкі блакітныя нябёсаў.*

*Яны, нібы на слуцкіх паясах,*
*Між каласоў разбегліся па краю.*
*Вясёлка ў жаўруковых галасах*
*Над імі паміж воблакамі грае.*

*Праменьчык сонца падае ў расу.*
*Душа пяе, і не патрэбны словы!*
*Увесь сусвет каханай я нясу*
*Ў букеціку маленькім васільковым.*





Уладзімір
БАРМУТА

## Унуку

*Ты любіш маляваць, унучак мой.*
*Трашчыць мароз, учэпісты і злосны,*
*Але ў тваім альбоме і зімой*
*Цвітуць вясёлкай маладыя вёсны.*

*Малюеш, хлопчык, ясны далягляд —*
*І ажывае ў красках шэры будзень,*
*І сонейкам іскрыцца твой пагляд.*
*Няхай і тваё заўтра светлым будзе!*

## Ільвоўна

*Заходжу ў хату да Ільвоўны,*
*Яна сядзіць каля акна*
*І ніткі цягне з белай воўны*
*Пад мерны шум верацяна.*

*Работа гэтая нахутка,*
*Але памалу, пакрысе*
*Навяжа з нітак тых абутку*
*І на таўкучку занясе.*

*— Малыя з пенсіі раскошы,*
*А выйду — нешта і прадам.*
*Хоць невялікія, ды грошы.*
*Якісь рубель і ўнуку дам.*

## Памылкі

*Дзень адгарэў і кануў пад гару,*
*За сіняю завесаю схаваны.*
*Яго памылак больш не паўтару,*
*Але ад новых не застрахаваны.*

*Бо ведаю: мне заўтра прынясе*
*Не толькі ўжо вядомыя задачы.*
*Ці правільна я іх рашу? Ці ўсе?*
*Ці будзе спадарожнічаць удача?*

*Каб і жыццё па-новаму пачаць,*
*Нягледзячы на досвед і старанні,*
*Прад кожным з нас працягвалі б гучаць*
*Пастаўленыя толькі што пытанні.*

# ДЖЭК

*Апавяданне*



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

Ядрэнна разбіраюся ў пародах сабак. Ды і, шчыра кажучы, не надта імкнуся, бо сённяшнія сабакары, якія наваднілі гарадскія вуліцы і паркі, дэманструюць такую разнастайнасць парод сваіх гадаванцаў, што трэба ўзброіцца цэлай энцыклапедыяй, каб не памыліцца і не пакрыўдзіць гаспадара, назваўшы, крый божа, якую звышрадавітую сучку звычайнай дварнягай.

А мой Джэк з далёкага дзяцінства быў, хутчэй за ўсё, той нерадавітай пароды. Ды і гаспадара ў яго не было, і прыбіўся ён да нашага невялікага прыгараднага пасёлка невядома адкуль.

За драўлянымі хатамі перад блізкім чыгуначным палатном стаяў тапаліны гаёк, куды я бегаў па раніцах, бо ў школе мы займаліся ў другую змену, і перш чым сесці рабіць урокі, я падцягваўся на самаробным турніку ці набіваў нагамі мяч, стараючыся як мага даўжэй не даваць яму ўпасці на зямлю.

Там я ўпершыню і ўбачыў Джэка. Дакладней, я не ведаў яшчэ, што гэта Джэк, бо шчаня невядома адкуль апынулася тут і палахліва ціснулася да дрэва, убачыўшы чалавека.

Зразумеўшы, што я не маю агрэсіўных намераў, сабачка павесялеў, завіляў хвосцікам і стаў неяк жаласна падвываць, падняўшы мордачку.

«Відаць, галодны», — падумаў я і дастаў з кішэні скібку хлеба з маслам, якую прыхапіў з сабой. Шчанюк у імгненне вока праглынуў мой падарунак і раптам ласкава пацёрся аб штаніну.

Сабак у нашым пасёлку не было, яны вяліся ў гаспадароў блізкага завулка, які заканчваўся якраз метраў за сто — сто пяцьдзясят перад нашым крайнім пасялковым домам.

Жыхары завулка мелі асабістыя падвор'і з садамі і агародамі, а нашы і суседскія пабудовы былі проста саўгаснымі кватэрамі. І хоць мелі зусім вясковы выгляд, ды ўсё ж не сваёй уласнасцю.

Таму і сабак нашы пітомніцкія не заводзілі, бо ахоўваць не было чаго, а іншых мэт трымаць чатырохногага сябра перад сабой тады ніхто не ставіў.

Са шчанюком мы пасябравалі хутка. Я тут жа назваў яго Джэкам і прывёў дахаты. Не сказаць каб бабуля дужа ўзрадавалася, але і не прагнала сабачаня, загадала толькі ў хату не заводзіць.

Маці, прыйшоўшы з працы, наказала яшчэ мыць рукі і выціраць ногі пры ўваходзе, бо ў шчаняці маглі быць блохі.

Так Джэк стаў і не свойскім, ды не зусім бяздомным. Бацькі баяліся забіраць яго да нас назусім, бо раптам знойдзецца гаспадар, але карміць сабачаня не забаранялі, і я кожны дзень прыхопліваў для новага сябра няхітры частунак: рыбныя ці мясныя костачкі, хлеб ці што іншае, што заставалася ад абеду ці вячэры.

Джэк бегаў са мной па мячык, стаў выконваць найпрасцейшыя каманды. А паколькі ён фактычна быў нічый, да нашых гульняў далучыліся і суседскія хлапчукі Васька ды Мішка.

Насоўвалася панылая восень, зачасцілі дажджы, стала рана цямнець. Цяпер, вяртаючыся са школы ўжо не прыцемкам, а сапраўднай цемрай, трэба было выбіраць лацвейшы шлях, бо з'явіліся вялікія лужыны, сцяжыны станавіліся гразкімі.

А Джэк раптам прапаў. «Пэўна, гаспадар знайшоўся, — сказала бабуля, — а можа, сам збег куды ці машына задушыла».

Пра тое, што задушыла машына, я і думаць не хацеў, хаця крыху крыўдаваў на Джэка, што пакінуў мяне, не развітаўшыся.

А ночы станавіліся ўсё цямнейшыя і халаднейшыя. Часам са школы даводзілася вяртацца праз завулак, бо ўжо напрасткі ад чыгункі праз гаёк прайсці было амаль немагчыма.

Ды шлях праз завулак быў не надта лягчэйшы. Ад самай вуліцы, дзе ён пачынаўся, і аж да самай нашай хаты не было ніводнага ліхтара. Ногі вязлі ў гразі, практычна нічога не было відаць, і толькі святло ад вокнаў хат паабапал дарогі хоць у нейкай ступені высвечвала прадметы і постаці рэдкіх мінакоў.

Калі абмінуў апошнюю хату, у якой жыў трохі дуркаваты Базыль і яго заўсёды змрочная, худая жонка Шурка, перада мной адкрыўся крыху святлейшы абсяг, і ногі, намацаўшы цвярдзейшы грунт, ужо весялей неслі дадому.

У адзін з такіх вечароў, падыходзячы ўжо да Базылёвай хаты, я пачуў гучны чалавечы стогн. Здалося нават, што плакала дзіця, але стогн перарастаў у хрып і зноў набіраў высокія ноты… Я здрануцеў. Валасы заварушыліся пад шапкай, па целе пабеглі мурашкі. Жудасць была невымерная. Крыкі і стогны былі яўна чалавечыя, і ўяўленне ўжо малявала самыя жудасныя карціны.

Крыху апрытомнеўшы, я, ужо не разбіраючы дарогі, панёсся дадому.

Бацька, убачыўшы мой спалатнелы твар і заўважыўшы, што я ўвесь дрыжу, доўга не распытваў, хутка нацягнуў гумовыя боты і рынуўся ў цемру.

Вярнуўся ён праз пэўны час. Бабуля адпойвала мяне гарачым чаем, гладзіла па галаве і нешта шаптала.

Бацька ў адказ на мой запытальны позірк закурыў, (а курыў ён досыць рэдка) і сказаў:

— Гэта Базыль. Казалі раней, што ён скуралуп. І сапраўды. Сабак вешаў.

Мне стала яшчэ страшней. «А што, калі там быў і мой Джэк?» — мільганула ў галаве. І я ўявіў, як круціцца ў пятлі і хрыпіць сабачаня. Ледзь стрымаўшы ваніты, кінуўся з хаты. Мяне калаціла.

Бацька падышоў ззаду, прыціснуў да сябе і выціраў сваёй шурпатай даланёй мае слёзы.

— А гаварылі, — раптам сказаў ён, — што сабакі і зайцы крычаць пры сканнані як людзі. І сапраўды. Ну не плач, супакойся. Ты ж мужчына!

Я доўга потым не мог хадзіць праз завулак. Праставаў праз чыгунку, нават згубіў аднойчы ў твані чаравік. І мне ўсё здавалася, што крычыць і круціцца ў пятлі маленькае сабачаня, ласкавы Джэк, і слёзы міжволі накатваліся на вочы, накатваліся сум і пачуццё віны, што не ўгледзеў, не ўпільнаваў шчаняці, не здолеў абараніць ад злых людзей.



# «Прарвёмся!»

*Апавяданне*

Яго не стала позняй вясной, калі зацвітаюць каштаны, калі клейкая лістота на дрэвах зіхаціць маладой прывабнай зелянінай, калі птушкі зранку абуджаюць прастору сваім гарластым гоманам, нібы святкуючы абуджэнне прыроды і прыход доўгачаканага цяпла.

Ён і сам быў, нібы тыя птушкі, у заўсёдным чаканні цяпла і сонца, бо восенню і зімой больш даводзілася сядзець дома: на калясцы дужа нязручна соўгацца па слізкіх дарогах, ды і ад дажджу на ёй дужа не схаваешся.

Каляску яму падаравалі аднагрупнікі па ўніверсітэце, бо з нагамі ў яго станавілася ўсё горш і горш, і ён ужо не мог, як раней, калыхаючыся, нібы качка, перасоўвацца па доўгіх універсітэцкіх калідорах.

Ён не любіў, калі яго называлі інвалідам. Ён і ва ўніверсітэт паступаў без усялякай пратэкцыі ці паблажкі. І, ловячы няўмольныя зацікаўленыя позіркі, толькі прыжмурваў вочы і сціскаў вусны, быццам паўтараючы сам сабе звыклае: «Нічога, прарвёмся!»

У групе яго палюбілі. За памяркоўны таварыскі характар, за эрудыцыю, за дасціпныя жарты. Ён захапляўся футболам і, казалі, некалі быў перспектыўным юным футбалістам. І толькі блізкія сябры ведалі, што інвалідам ён стаў раптоўна ад банальнай і неспадзяванай прычыны — укуса кляшча.

Як ні ён, ні маці, якая адна гадавала сына, не заўважылі, што маленькая чорная кропачка пад лапаткай — гэта прысасалы клешч, які «ўзнагародзіў» маладога, здаровага і моцнага падлетка энцэфалітам?..

Пацягнуліся доўгія бальнічныя дні і ночы, і адна злая санітарка, адпраўляючыся ў адпачынак, сказала з крывой усмешкай:

— Спадзяюся, што праз месяц цябе ўжо на гэтым ложку не будзе.

Але ён паўтараў сам сабе: «Нічога, прарвёмся!»

І прарываўся. Хоць цела стала важкім ды рыхлым і рухацца было цяжка, засеў за кнігі, а кожнай раніцай знясільваў сябе markрознымі фізічнымі практыкаваннямі, каб не паддавацца хваробе.

У «ліхія дзевяностыя» маці страціла працу на заводзе. Давялося заняцца дробным бізнесам: ездзіць у чаўночныя рэйсы ў Польшчу і перапрадаваць у Полацку на базары рознае шмаццё. Перасільваючы немач, ён нярэдка сядзеў у гандлёвай палатцы з ёю.

Пра гэта з аднакурснікаў мала хто ведаў, і калі ён прапускаў заняткі, усе думалі, што віною была хвароба. Але ён зноў з'яўляўся ва ўніверсітэце, актыўна адказваў на семінарскіх занятках, жартаваў у час перапынкаў і, здавалася, нічым не адрозніваўся ад іншых студэнтаў. Толькі часта стаў падаць, калі даводзілася станавіцца на ногі. Але нікому не дазваляў дапамагаць яму падняцца.

Так дайшоў да апошняга курса. Абавязковага размеркавання тады не было, і ён так і не знайшоў працу, бо гісторыку ў яго стане ўладкавацца куды-небудзь было проста немагчыма. Нечакана захварэла і памерла маці, і ён застаўся адзін. Ды ніякіх скаргаў ад яго ніхто не чуў. Пенсіі хапала, каб не галадаць, сябры наведвалі час ад часу, а ён заняўся полацкай гісторыяй. У што гэта выльецца — у навуковую працу ці мастацкія творы, — яшчэ не ведаў, але дні былі запоўнены вывучэннем розных матэрыялаў з кніг, часопісаў. Камп'ютара ў яго не было, і сябры прыносілі раздрукоўкі, якія ён заказваў.

Я любіў слухаць яго голас па тэлефоне. Хоць па ўзросце ён быў значна маладзейшы, ды размаўлялі мы на роўных. Мне цікава было ведаць яго ўражанні пра мае перадачы на радыё, пра публікацыі ў перыёдыцы. Яны былі заўсёды добразычлівыя і далікатныя, нават калі ён з нечым быў нязгодны. Часам ён суцяшаў і падтрымліваў мяне, калі я распавядаў пра свае праблемы. І мне станавілася сорамна, бо яму ў жыцці было значна цяжэй, чым мне.

«Ну што? Прарвёмся!» — заканчваў ён размову, і я адгукаўся: «Абавязкова прарвёмся!».

Неяк ён перастаў тэлефанаваць, а я закруціўся ў справах і ўсё адкладваў званок. І спазніўся, хоць нічым бы памагчы, безумоўна, не змог. Раптоўная пнеўманія знясіліла і без таго шматпакутнае цела. Праўда, нават дактары не чакалі такога раптоўнага канца.

А мне стала яшчэ больш пуста і сусцішна. Ён пайшоў туды, куды пайшлі мае сябры раней за яго, пакінуўшы мне горыч страты і няўцешны боль. Ды ў памяці яшчэ гучыць яго хрыплаваты ціхі голас і, як запавет, вымаўленыя ім словы: «Нічога, прарвёмся!»

*Схамянайся ж ты, моладзь арліна!*
*Ў бок другі віхры веяць прымусь,*
*Бяры светач, ідзі за судзьбінай,*
*Ідзі з словам святым: Беларусь!*

**Янка Купала «Моладзі», 1914**

# ПЕРАПЛЯЦЕННЕ ЛЁСАЎ

Аляксандр Філіпенка нарадзіўся ў Мінску, але ў студэнцкія гады пераехаў у Расію. Там скончыў філалагічны факультэт Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў на «Первом канале», дзе пісаў сцэнары да праграм «Прожекторперисхилтон», «Мульт личности» і «*Yesterday Live*», на тэлеканале «Дождь» з тэлепраектамі «Вечерний Герасимец» і «Едим дома!». Цяпер аўтар супрацоўнічае з расійскімі літаратурнымі часопісамі і, як ён жартуе, жыве ў цягніку Масква — Санкт-Пецярбург. На радзіму яго «занесла» прэзентацыя чацвёртай кнігі — «Чырвоны крыж».

Гэты раман — спалучэнне факта і меркавання, перапляценне адмысловага мастацкага стылю аўтара і строгага справавога стылю знойдзеных рэдкіх дакументаў. Прахалодным вечарам у кнігарні, дзе крэслаў не хапіла на ўсіх зацікаўленых, Аляксандр паведаміў, як стваралася кніга:

— На прэзентацыі мінулага выдання да мяне падышоў чытач па аўтограф. Распавёў, што займаецца архіўнымі дакументамі і можа падзяліцца ведамі. Я стаў з ім супрацоўнічаць, штораніцу чытаў новыя дакументы. Некаторыя з іх моцна ўразілі. Напрыклад, у другі дзень вайны арганізацыя Чырвоны крыж звяртаецца да Савецкага Саюза з запытам аб супрацоўніцтве. СССР, мяркуючы па ўсім, ігнаруе гэтае пасланне. Я задумаўся…

Пісьменнік вырашыў, што галоўнай гераіняй твора будзе машыністка Міністэрства ўнутраных спраў Таццяна, праз рукі якой праходзяць усе важныя дакументы, у тым ліку ад Чырвонага крыжа. Аднойчы ў спісе ваеннапалонных, які яна павінна перакласці на рускую мову, згадваецца яе муж. Мы разумеем, што можа здарыцца з супрацоўніцай міністэрства і яе сям'ёй, калі пра гэта даведаецца кіраўніцтва…

Аўтар хацеў даведацца пра зносіны паміж СССР і Міжнародным Чырвоным Крыжам, але атрымаць доступ да дакументаў было складана. Потым зразумеў, што ёсць іншае выйсце, і ў Швейцарыі папрасіў паказаць лісты, якія Чырвоны крыж дасылаў у СССР. Арганізацыя вяла біяграфію кожнага ліста — гэты факт адлюстраваны ў кнізе (калі гераіня трапляе ў галоўны архіў). Паводле карэспандэнцыі Аляксандр Філіпенка імкнуўся старанна рэканструяваць падзеі:

— Я пісаў першы гістарычны раман, гэта была сур'ёзная і цяжкая праца. Трэба было дбайна пераправяраць дэталі...

Але кніга не толькі пра мінулае. Гісторыя распачынаецца прыездам маладога чалавека з Расіі ў Беларусь. Калі герой хоча ўвайсці ў кватэру, то заўважае на дзвярах намаляваныя крыжы. Суседка Таццяна з хваробай Альцгеймера распавядае яму сваю займальную гісторыю. Хлопец уважліва слухае, падтрымлівае жанчыну. Яго жыццё таксама склалася няпроста… У кнізе пераплецены лёсы людзей, краін, міжнародных арганізацый. Твор атрымаў сваю назву не толькі паводле наймення міжнароднага гуманітарнага руху — галоўныя героі зычліва дапамагаюць адзін аднаму.

— Мы павінны дамагчыся, каб архівы былі адкрытыя! Магчыма, мы не гатовыя, але ўсё адно гэта трэба зрабіць, — упэўнены Аляксандр Філіпенка.

Хвароба Альцгеймера паволі сцірае старонку за старонкай памяці галоўнай гераіні. Але многія нашы сучаснікі ўжо самі не жадаюць ведаць пра падзеі нядаўняга мінулага — і добра, што з'яўляюцца цікавыя мастацкія творы, прысвечаныя гісторыі XX стагоддзя. Расійскае выдавецтва «Время» ўжо рыхтуе дадатковы тыраж рамана.

**Селіна ЧАРНОВА**

# ПРЫВАБІЦЬ «МІЛЕНІЯЛАЎ»,

## або Чаму маладыя людзі ва ўзросце ад 20 да 34 гадоў — самыя неактыўныя чытачы?

Ва ўмовах перанасычэння ва ўсіх сферах (у інфармацыйнай прасторы — навінамі, фактамі рознага кшталту; у рынку — прапанаванымі таварамі, паслугамі), у рэчаіснасці, што беспарапынна змяняецца з велізарнай хуткасцю, кансерватыўнай сферы кнігавыдання даводзіцца шукаць новыя шляхі працы, зносінаў з пакупнікамі, па-новаму пазіцыянаваць сябе ў культурніцкай прасторы. Не толькі арыентуючыся на літаратурна-мастацкія вартасці прапанаваных твораў, але і з улікам сучасных маркетынгавых стратэгій.

Як з найбольшай верагоднасцю вызначыць мэтавую групу спажыўцоў кніжнай прадукцыі? Як размаўляць з новымі пакаленнямі пакупнікоў, якія маюць зусім іншыя каштоўнасці? Як маленькім выдавецтвам наладзіць узаемадзеянне дзеля больш паспяховай сумеснай працы ў галіне? На гэтыя і іншыя пытанні шукалі адказы беларускія і ўкраінскія выдаўцы з дапамогай рэферэнтаў з Германіі. Семінар у межах праграмы павышэння кваліфікацыі для малых і незалежных выдавецтваў з Беларусі і Украіны прайшоў у Інстытуце імя Гётэ ў Мінску пры фінансавай падтрымцы Міністэрства замежных спраў Германіі. У якасці аднаго з лектараў выступіла спадарыня Моніка Кольб-Клаўш, супрацоўніца Медыякампуса Франкфурт і прадстаўніца Біржавога саюза нямецкага кнігагандлю.




*Фота прадастаўлена Інстытутам імя Гётэ ў Мінску.*

*Падчас семінара для беларускіх і ўкраінскіх выдаўцоў сакрэтамі паспяховых продажаў дзяліцца Моніка Кольб-Клаўш.*

### 5 ПАКАЛЕННЯЎ — 5 МАРКЕТЫНГАВЫХ СТРАТЭГІЙ

Досвед даказвае: кніжнай галіне сёння патрэбныя не толькі і не столькі таленавітыя аўтары, рэдактары, кіраўнікі праектаў, колькі спецыялісты, якія валодаюць цэлым комплексам ведаў і кампетэнцый. Так, як распавяла спадарыня Моніка, перш чым распачынаць любы праект, варта вывучыць мэтавыя групы, выбудаваць камунікацыю на розных узроўнях і пралічыць магчымую рызыку. За апошнія 20 — 25 гадоў можна прывесці безліч прыкладаў непаспяховых, не-эфектыўных выдавецкіх прадуктаў. Яны не прагучалі, не выбухнулі не па прычыне нізкай якасці, але з-за няправільнага пазіцыянавання на рынку.

Пытанне «Што адбываецца ў грамадстве?» сёння ключавое фактычна для ўсіх сфер дзейнасці чалавека. Важна зразумець, якімі каштоўнасцямі кіруецца кожнае з пакаленняў пакупнікоў, як вызначае прыярытэты. Так, паводле вынікаў даследавання, праведзенага кампаніяй *GfK* у Германіі (дарэчы, у даследаванні брала ўдзел каля 25 тысяч чалавек ва ўзросце ад 10 гадоў, цягам пэўнага часу яны фіксавалі ўсё, што набывалі на кніжным рынку), усё сучаснае грамадства можна ўмоўна падзяліць на пяць «пакаленняў»:

1. Да гэтай групы адносяцца найстарэйшыя жыхары, якія нарадзіліся да 1952 года (узрост 65+). Яны аднаўлялі краіну, гаспадарку пасля Другой сусветнай вайны.

2. Пакаленне, умоўна названае *babyboomers*. Гэта людзі ва ўзросце ад 50 да 64 гадоў, якія ўсё жыццё шмат працавалі, марылі пра дабрабыт і добрае жыццё. З аптымізмам глядзелі ў будучыню. Маюць традыцыйны светапогляд, таму нярэдка ў прадстаўнікоў гэтай групы асноўны прыбытак у сям'ю прыносіць мужчына, жанчына ж займаецца хатняй гаспадаркай і клапоціцца пра дзяцей.

3. Пакаленне «Х», да якога адносяцца жыхары, народжаныя паміж 1967 і 1981 гадамі (узрост 35 — 49 гадоў). Сёння яны — ядро сярэдняга класа грамадства Германіі. Гэта людзі з моцным індывідуальным пачаткам, якія заўсёды мелі магчымасць выбіраць лад жыцця, прафесію, занятак. На іх век прыпала з'яўленне прыватных тэлеканалаў, актыўнае развіццё рэкламы.

4. «Міленіялы», або новы сярэдні клас. Маладыя людзі ва ўзросце ад 20 да 34 гадоў. Яны жывуць ва ўмовах свету, развіццё якога паскараецца. Звыкліся да таго, што ўзровень беспрацоўя ў краіне досыць высокі, таму з лёгкасцю змяняюць месца працы, набываюць новыя прафесійныя веды, больш гібкія ў працэсе адаптацыі да новых умоў жыцця і працы. Прыкладам па жыцці і найлепшымі сябрамі часта лічаць сваіх бацькоў (пакаленне *babyboomers*).

5. Пакаленне *iBrains*, людзі, народжаныя паміж 1997 і 2011 гадамі (ім сёння ад 5 да 19 гадоў). Яны здольныя адказваць на новыя пытанні, што ставіць жыццё, актыўна працуюць у галіне інфармацыйных тэхналогій, валодаюць новымі метадамі камунікацыі, у тым ліку лічбавай.

### ХТО ВАЖНЕЙШЫ ДЛЯ КНІЖНАГА РЫНКУ?

Як распавяла Моніка Кольб-Клаўш, кожная з гэтых груп пакупнікоў, маючы пэўныя ўласцівасці, важная для кніжнага рынку. Трэба ўмець правільна прадставіць тавар для кожнай з іх. Але калі для прадстаўнікоў старэйшых пакаленняў у прадстаўленні кніг апраўдана выбіраць традыцыйны падыход, то для «міленіялаў» і пакалення iBrains варта распрацоўваць новыя метады. Тым больш, што даследаванні рынку паказваюць: найменш кніг набываюць менавіта «міленіялы».

Так, маладыя людзі думаюць глабальна і лакальна адначасова. Яны могуць разважаць пра праблемы ўсяго свету, але разам з тым клапоцяцца пра брэнд сваёй краіны, рэгіёна, падтрымліваць мясцовых прадаўцоў. Яны ўмеюць атрымліваць задавальненне, але разам з тым не забываюцца на правільнае харчаванне, спорт, вядуць здаровы лад жыцця і клапоцяцца пра здароўе. Умеюць знаходзіць баланс паміж жыццём анлайн і рэчаіснасцю (разам з праглядам праграм на *youtube* кіруюцца інструкцыямі з традыцыйных кніг), інавацыямі і традыцыямі.

Раней кніжныя маркетолагі лічылі, што папяровую кнігу з цягам часу ўсё больш і больш выцесняць кнігі электронныя, а гандаль у традыцыйнай краме афлайн будзе заменены інтэрнэт-магазінамі. Час паказаў іншае: рынак электронных кніг, перажыўшы неверагодны ўздым гадоў пяць таму, сёння сутыкнуўся са спадам пакупніцкай актыўнасці, а гандаль не спяшаецца сыходзіць у інтэрнэт-прастору. Але нельга лічыць, што кніжная крама ў яе традыцыйным фармаце, здольная прывабіць прадстаўнікоў старэйшых пакаленняў, можа гэтак жа зацікавіць моладзь. Варта памятаць, што «міленіялы», таксама як і прадстаўнікі пакалення *iBrains*, адчуваюць дэфіцыт часу і разам з жаданнем кантактаваць з іншымі людзьмі, не ўпускаць магчымасці лічбавага свету (анлайн-гульні, серыялы, кіно, сацыяльныя сеткі) вельмі высока цэняць вольны час і зносіны ў рэальным жыцці. Грошы і атрыманне матэрыяльных прыбыткаў сёння не самы важны прыярытэт для іх. Пры выбары месца працы будуць арыентавацца найперш на зручны графік і добразычлівую атмасферу ў камандзе. Яны смела выказваюць сваё меркаванне, але разам з тым не надта ахвотна бяруць на сябе адказнасць і пагаджаюцца на кіраўнічыя пасады.

### ЯК ЗАВАЛОДАЦЬ УВАГАЙ?

Ва ўмовах, калі ўвага пакупніка ўвесь час размяркоўваецца паміж некалькімі крыніцамі інфармацыі, кнігагандляру вельмі складана перацягнуць гэтую «коўдру» на сябе. Але ў ліку дзейсных рэцэптаў, якімі падзялілася спадарыня Моніка, можна назваць найперш якасную прысутнасць у полі зроку маладога пакалення. Так, варта рабіць стаўку на актыўную пазіцыю, што мае на ўвазе прыняцце сацыяльнай адказнасці. Менавіта таму найбольш паспяховымі праектамі становяцца тыя, што не толькі скіраваныя на прыбытак і высокія лічбы продажаў, але грунтуюцца на акцэнце значнасці для грамадства. Вось чаму слоган *Coca-Cola* «Лепш бегаць разам» стаўся настолькі яркім і сапраўды спрацаваў.

У галіне кніжнага бізнесу Германіі можна прывесці прыклад паспяховай рэкламнай кампаніі «Асцярожна, кніга!». Старонка гэтай ініцыятывы мае каля 41 тысяч сяброў у сацыяльных сетках, атрымала каля 550 тысяч водгукаў на год. Важна, што да акцыі далучылася авіякампанія, прадставіўшы дадатковы бясплатны кілаграм багажу для перавозкі кнігі. Гэтай паслугай скарысталася каля 35 тысяч пасажыраў, кожны з якіх атрымаў спецыяльную наклейку для чамадана «Кніга на борце».

Па меркаванні спадарыні Монікі, кніжнікам не выпадае быць сціплымі: праз кнігу распаўсюджваецца культура, прэзентуючы гістарычнае мінулае і сучаснасць.

***Дарэчы, сама спадарыня Моніка сёлета наведала Мінск ужо другі раз. Яна распавяла, што з 2009 года, калі была ў сталіцы нашай краіны ўпершыню, і горад, і людзі вельмі змяніліся. Розніца паміж беларускім і еўрапейскім грамадствам становіцца менш заўважнай. Гэта тычыцца і ладу жыцця, стылю адзення, пакупніцкіх паводзінаў. Па меркаванні спецыяліста па продажах, гэтыя пазітыўныя змены варта выкарыстоўваць для больш эфектыўнай працы кніжнага бізнесу.***

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Скарына, барды і кітаязнаўцы

> *Лета ты, лета, прыгожа-квяцістае,*
> *Колькі ты ўносіш аздобы з сабой!*
> *Цягнуцца стройна шнуры каласістыя,*
> *Пахне пававбна трава над ракой.*
>
> **Янка Купала «Лета», 1910**



**Калі вас вабіць скарбніца сусветнай літаратуры, калі вы імкняцеся пачуць жывое слова славутага пісьменніка і стаць яго суразмоўнікам, калі памяць пра Вялікую Айчынную вайну вы лічыце не прыналежнасцю гісторыі, а справай гонару вашай сям'і, калі жадаеце вывучыць замежныя мовы, паглыбіць свае веды ў галіне беларускай і рускай моў, вашыя пуцявіны ў абранай прафесіі філолага невыпадкова будуць знітаваныя з філалагічным факультэтам Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны.**

Гісторыя нашай альма-матар бярэ пачатак яшчэ з 30-х гадоў мінулага стагоддзя. Гомельскі ўніверсітэт выхаваў трох лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі Беларусі: І. Шамякіна, К. Кірэенку і М. Башлакова. І. Шамякін пакінуў цікавыя успаміны пра гады навучання ў Гомельскім педінстытуце. Л. Гаўрылаў, М. Сурначоў, А. Жаўрук атрымалі дыпломы ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны і загінулі, абараняючы радзіму.

У нас вучыліся такія адметныя творцы, як В. Ярац, А. Сыс, А. Зэкаў, В. Куртаніч, С. Крупенька, В. Стрыжак, Г. Новік, А. Бараноўскі і інш.

Пэўна, ніводная вышэйшая навучальная ўстанова Беларусі не ўзгадвала столькі бардаў, колькі Гомельскі ўніверсітэт: Андрэй Мельнікаў, Эдуард Акулін, Зміцер Вінаградаў, Зміцер Сасноўскі, Вольга Цяршчанка, Ганна Чумакова. Менавіта ў нашым універсітэце быў створаны першы беларускамоўны гурт.

Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт нездарма носіць імя Францыска Скарыны.

Наданне ўніверсітэту імя Францыска Скарыны (1988 г.) звязана з дзейнасцю Уладзіміра Анічэнкі, доктара філалагічных навук, прафесара, добра вядомага ва ўсім славістычным свеце. Грунтоўнай працай па гістарычнай лексікаграфіі стаў трохтомнік У. Анічэнкі «Слоўнік мовы Скарыны».

З 1993 г. па ініцыятыве У. Анічэнкі пры ГДУ працуе музей-лабараторыя Францыска Скарыны, наш універсітэт з'яўляецца цэнтрам збору і вывучэння скарыназнаўчых матэрыялаў.

Вялікае месца ў лінгвістычнай дзейнасці У. Анічэнкі заняла падрыхтоўка васьмітомнага «Слоўніка мовы Янкі Купалы», якую пад яго кіраўніцтвам ажыццявіў калектыў лексіколагаў — прафесарска-выкладчыцкі састаў кафедры беларускай мовы і супрацоўнікі лінгвістычнай лабараторыі. Матэрыялы слоўніка пераконваюць у багацці лексікі класіка беларускай літаратуры, якая складае па самых сціплых падліках не менш за 26 000 адзінак, і даюць усе падставы для гонару і за мастака, і за яго народ.

Плённа працуе на факультэце Навукова-даследчы інстытут гісторыі і культуры ўсходнеславянскіх народаў, дырэктар якога — доктар філалагічных навук, прафесар кафедры беларускай мовы А. Станкевіч. Інстытут паспяхова займаецца вывучэннем матэрыяльнай і духоўнай спадчыны Усходняга Палесся ў кантэксце ўсходнеславянскай гісторыі і культуры.

Пры кафедры беларускай літаратуры, адзін з вызначальных напрамкаў дзейнасці якой — рэгіянальныя даследаванні, асэнсаванне творчасці пісьменнікаў Гомельшчыны, працуе краязнаўчая навуковая лабараторыя «Гомельшчына літаратурная», дзе студэнты маюць магчымасць выявіць свае навуковыя здольнасці.

Кафедра беларускай літаратуры ладзіць міжнародныя навуковыя канфе-рэнцыі «Рэгіянальнае, нацыянальнае і агульначалавечае ў літаратуры», удзел у якіх бяруць вядучыя навукоўцы не толькі Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, але і славісты Германіі, Англіі, Харватыі, Сербіі, Чарнагорыі, Славеніі. Добрай традыцыяй кафедры беларускай мовы стала правядзенне міжнародных навуковых канферэнцый «Скарына і наш час», «Традыцыі матэрыяльнай і духоўнай культуры Усходняга Палесся», «Святло Скарынавых ідэй». Пры арганізацыйнай і фінансавай падтрымцы прадстаўніцтва «Россотрудничества» ў Рэспубліцы Беларусь штогод кафедра агульнага, рускага і славянскага мовазнаўства арганізоўвае «Славянскія сустрэчы».



Пры кафедры рускага, агульнага і славянскага мовазнаўства працуе навукова-метадычны Цэнтр русістыкі, створаны пры падтрымцы Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь.

Добрая традыцыя філалагічнага факультэта, і ў першую чаргу кафедры рускай і сусветнай літаратуры, — адукацыйныя праекты з удзелам слынных гуманітарыяў Расіі: Сяргея Небальсіна, Льва Анінскага, Андрэя Туркова, Васіля Пяскова, Ігара Залатускага, Фёклы Талстой — прапраўнучкі Льва Талстога...

Яшчэ адзін кірунак работы, які склаўся ў апошнія гады, — кітаязнаўства. Больш за дзесяць гадоў пры кафедры працуюць факультатыўныя курсы кітайскай мовы, арганізаваныя пры падтрымцы Пасольства КНР у нашай краіне. У 2013 годзе на базе кабінета кітаязнаўства быў створаны кабінет Канфуцыя. Выкладчыкамі кітайскай мовы ў нас працуюць выпускнікі кітайскіх ВНУ. На базе кабінета Канфуцыя ладзяцца майстар-класы па кітайскай каліграфіі і кітайскай кулінарыі, кітайскія чайныя цырымоніі. У лютым гэтага года было праведзена маштабнае мерапрыемства «Дні культуры Кітая і кітайскай мовы ў Гомельскім універсітэце», у межах якога адбылася міжнародная навуковая канферэнцыя «Традыцыйная духоўная культура ўсходнеславянскіх і кітайскага народаў».

Ва ўнікальным літаратурна-асветніцкім цэнтры памяці аб Вялікай Айчыннай вайне «Патрыётыка», створаным пры кафедры рускай і сусветнай літаратуры, студэнтыператвараюцца ў летапісцаў гісторыі і руплівых даследчыкаў той спадчыны, што яднае сямейную біяграфію бацькоў і старэйшых родзічаў з вызначальнымі падзеямі тых часоў, калі вырашаўся лёс не толькі Беларусі, але і ўсяго свету.

Зрабіце крок насустрач новым творчым здзяйсненням у шчырым супрацоўніцтве з прафесіяналамі сваёй справы з філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны!

**Алена ПАЛУЯН,**
**намеснік дэкана філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта**

# За шматмоўе




**Студэнты філалагічнага факультэта Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Пятра Машэрава цікавыя разнастайнасцю інтарэсаў, імкненнем да пазнання свету праз слова, шматграннасцю захапленняў, неабыякавасцю да навакольнага свету, шчырасцю пачуццяў. Добразычлівая атмасфера, прыязнае стаўленне дапамогуць сённяшняму абітурыенту і далей (спадзяёмся) першакурсніку раскрыць свой патэнцыял, знайсці новае захапленне — у ведах і навуцы, насычаным жыцці грамадскіх арганізацый факультэта, творчых калектывах.**

Філалагічны факультэт ВДУ імя П. Машэрава гасцінна адчыняе дзверы для сённяшніх абітурыентаў. У сучасным свеце, які патанае ў інфармацыі, упрадакаваць усё можа толькі слова. Філалагічны факультэт — гэта царства Слова. Да яго прыхінаюцца студэнты, якія навучаюцца на розных спецыяльнасцях: «Беларуская філалогія», «Руская філалогія», «Руская мова і літаратура. Замежная мова», «Рамана-германская філалогія». Філалагічная адукацыя дазваляе сучаснаму маладому чалавеку рэалізаваць сябе ў розных сферах: ва ўстановах адукацыі, рэдакцыях газет, радыё і тэлебачання. Наш выпускнік — гэта выкладчык, перакладчык, літаратурны супрацоўнік, рэдактар (літаратурны, тэхнічны, мастацкі, стылістычны), карэктар.

Беларуская, руская, украінская, польская, англійская, французская, нямецкая, шведская, арабская, кітайская, іспанская, лацінская — гэты пералік моў, якія вывучаюцца на факультэце, увесь час папаўняецца.

Акунуцца ў моўнае асяроддзе, папрактыкавацца ў актыўным выкарыстанні мовы дапамагаюць студэнтам шматлікія міжнародныя стажыроўкі ў Польшчу, Германію, Кітай, Чэхію, Расію, Украіну. У межах акадэмічнай мабільнасці пры выкананні сумесных культурных праектаў студэнты папаўняюць веды па перакладазнаўстве, методыках выкладання моў, мовазнаўстве і літаратуразнаўстве на акадэмічных анлайн-лекцыях вядучых навукоўцаў з Польшчы, Расіі, Казахстана, Ізраіля.

Актыўныя і крэатыўныя студэнты знойдуць сябе, уключыўшыся ў дзейнасць навуковых школ факультэта, такіх як «Актуальныя праблемы анамастыкі» пад кіраўніцтвам доктара філалагічных навук прафесара Г. Мезенкі, «Лінгвакультуралогія», якой кіруе доктар філалагічных навук прафесар В. Маслава, «Мастацкае народазнаўства» пад кіраўніцтвам В. Бароўкі. Дэвіз навуковых школ: «У таленавітага вучонага — таленавітыя вучні».

«Прапануй праект — прызві сябе ў ім — стань пераможцам» — пад такім дэвізам працуюць шматлікія навуковыя гурткі кафедраў агульнага і рускага мовазнаўства, беларускага мовазнаўства, літаратуры, германскай філалогіі, сусветных моў.



Літаратурныя конкурсы, студэнцкія алімпіяды, выпуск факультэцкіх газет «Лесвіца» і «Шосты паверх» дапамагаюць студэнтам вучыцца цікава. Напаўняюць студэнцкае жыццё творчасцю інтэрнэт-тэлебачанне ТВУ, створанае на факультэце, паэтычны тэатр, клуб грамадскіх аб'яднанняў. Жыва і насычана праходзіць тыдзень «Пазнання і творчасці», захапляе шчырасцю Фестываль беларускага слова, творчая атмасфера пануе на літаратурных прэзентацыях і сустрэчах.

З новага навучальнага года на факультэце будуць рэалізаваныя два новыя праекты. Пачне работу Цэнтр славянскіх моў і культур, мэта якога — пашырэнне міжнародных кантактаў і лінгвакультурнай адукацыі, запрашэнне носьбітаў розных славянскіх моў. Будзе адкрыты і Цэнтр лінгвадыдактычных практык, дзе студэнты будуць авалодваць інавацыйнымі методыкамі выкладання моў і літаратуры, практыкавацца ва ўкладанні эксперыментальных школьных комплексных слоўнікаў, займацца перакладчыцкай дзейнасцю.

Філалагічны факультэт ВДУ імя П. Машэрава вядомы сваімі традыцыямі, чакае тых, хто гатовы скарыць усе вяршыні — прагных да ведаў, самастойных і мэтанакіраваных, у меру амбіцыйных і прагматычных, творчых і пазітыўных.

**Святлана МАРТЫНКЕВІЧ,**
**намеснік дэкана па вучэбнай рабоце, кандыдат педагагічных навук, дацэнт**

# Сінтэз класікі ды наватарства

## Айчынныя майстры мастацкага тэкстылю паказалі рэтраспектыву творчасці


Марк Шагал «Бухта анёлаў», 1960 г.

Беларускі габелен — сапраўдная нацыянальнаая каштоўнасць. Цягам доўгага часу майстры развівалі напрамак мастацкага тэкстылю, заснавалі школу габелена, дзякуючы якой атрымаць неабходныя веды і рэалізаваць іх на практыцы могуць маладыя творцы. У ліпені ў Палацы мастацтваў (на другім паверсе) экспануецца выставачны праект «Паралелі», які аб'ядноў знакамітых творцаў айчыннага тэкстылю — Ларысу Густаву, Людмілу Пуцейка, Людмілу Пятруль, Галіну Крываблоцкую і Вольгу Рэднікіну.

Праект арганізаваны з нагоды юбілеяў аўтараў: Ларыса Густава, Людміла Пуцейка, Людміла Пятруль адзначаюць сямідзесяцігоддзе, Галіна Крываблоцкая — саракагоддзе з пачатку творчай дзейнасці, а самая маладая ўдзельніца выстаўкі, Вольга Рэднікіна, рыхтуецца адзначыць саракагоддзе. Мастачкі сталі першымі, хто абраў у краіне прафесію мастака па тэкстылі.

— Кожны з нас заняў у сістэме выяўленчага мастацтва сваю нішу і здолеў заваяваць аўдыторыю, таму выставачны праект мы і назвалі «Паралелі», — адзначае мастачка Ларыса Густава. — Мы даём публіцы магчымасць убачыць рэтраспектыву, эвалюцыю нашай творчасці: дэманструем работы як ранняга перыяду, так і апошняга. У нас няма канкурэнцыі, мы, наадварот, адна адну падтрымліваем, таму ў творах нас можна пазнаць праз дэталі, колеры. Наша мастацтва шматграннае. Мастацкім тэкстылем сёння займаецца і маладое пакаленне, нягледзячы на тое, што гэты працэс вельмі працаёмкі, складаны. Маладыя мастакі руйнуюць стэрэатыпы, што габелен састарэў.

Працуючы над новымі аб'ектамі і раскрываючы праз іх актуальныя тэмы, аўтары даказваюць значнасць і перспектыўнасць мастацкага тэкстылю.

Усе работы створаныя з выкарыстаннем воўны, сінтэтыкі, лёну. Мастачкі раскрываюць тэму роднай краіны: Ларыса Густава абрала тэматыку гарадоў, ды разважае не над інфраструктурай, а шукае сімвалы. Сімвалы Мінска — храмы. Для аўтара важна паказаць духоўнасць горада, яго душу. Выкарыстоўваючы пераважна светлыя колеры, творца паказвае гарады спакойнымі і ўтульнымі. Галіна Крываблоцкая шмат працуе над гістарычнымі і традыцыйнымі сюжэтамі. У яе творах праглядаецца беларускі арнамент. Мастачка нагадвае пра важныя для беларусаў святы, такія як Радаўніца і Дзяды. А Людміла Пятруль сумяшчае абстракцыю з элементамі пейзажа, дэманструючы ў творах беларускі сялянскі побыт. Творчая рэтраспекцыя мастачкі (1970 — 2015 гады) паказвае эвалюцыйны шлях беларускага мастацкага тэкстылю, паступовы пераход ад традыцыйнага прамавугольнага габелена да аб'ёмна-прасторавай інсталяцыі з інтэрактыўнай функцыяй непасрэднага кантакту з гледачом.


Людміла Пятруль «Лес», 1996 — 1997 гг.


Галіна Крываблоцкая «Ра — радасць — радуга — рай», 2013 г.

— Мы практычна аднаго ўзросту, развіваліся і рэалізоўваліся паралельна. Усе любім габелен, аддалі гэтай справе шмат часу і сіл, аднак у кожнай свой аўтарскі почырк, — адзначае мастачка Галіна Крываблоцкая. — Нам важна паказаць габелен не проста як экспанат, а як працэс развіцця. Важна, каб глядач адчуў, што мы рухаемся наперад, знаходзім новыя тэматычныя і тэхнічныя рашэнні. Майстры сталага пакалення працуюць у асноўным з класічным габеленам, які дае базіснае разуменне тэкстылю. Але некаторыя з нас адыходзяць «ад сцен» і імкнуцца паказаць тэкстыль у аб'ёме, які можа здзіўляць знешняй кампазіцыяй, памерам. Беларускія майстры заўсёды ў пошуку новых ідэй, імкнуцца быць актуальнымі, патрэбнымі. Калі майстры старой школы захоўваюць традыцыі, то маладыя прадстаўнікі ўносяць у мастацтва габелена новыя павевы праз структуру, тэхніку і новыя матэрыялы.

Асаблівай увагі заслугоўваюць творы Вольгі Рэднікінай. У мастачкі — вялікі досвед. Вольга вучылася ў творцаў, з якімі цяпер разам дэманструе майстэрства. Настаўнікі дапамаглі адчуць тэкстыль, яго фактуру, сфарміравалі разуменне тэндэнцый і тэхнікі габелена. Аўтар шмат увагі надае колеравым і светавым нюансам, эксперыментуе з матэрыялам і формамі. Вольга ў пастаянным творчым пошуку, выкарыстоўвае разнастайныя матэрыялы, даследуе магчымасці тэкстыльных тэхналогій. Мастачка выкарыстоўвае досвед, атрыманы ад прадстаўнікоў беларускай школы мастацкага тэкстылю, але і дадае наватарства.

Тое, што ў Беларусі існуе школа мастацкага тэкстылю, — вялікае дасягненне. І паколькі класічным тэкстылем айчынныя майстры валодаюць прафесійна, то апошнім часам мастакі ўсё больш звяртаюцца да актуальных эксперыментальных напрамкаў, дзе патрэбны новыя матэрыялы, тэхналогіі і, вядома, тэмы. На выстаўцы «Паралелі» прадстаўлены тэкстыльныя скульптуры і інсталяцыі, створаныя на аснове спецыяльнай мастацкай структуры, якая дазваляе тэкстылю набываць аб'ёмную форму.

— Працаваць з габеленам было заўсёды складана, — расказвае Галіна Крываблоцкая-Маркавец. — Так, час змяніўся, але калі раней работы прадаваліся лепш і хутчэй, то тады не было такога сучаснага абсталявання, цяпер працэс больш хуткі, арыгінальны і эксперыментальны. Габелен загартоўвае, бо працэс скрупулёзны, патрабуе вялікай канцэнтрацыі, увагі і сіл. Але беларусы — народ працавіты, менавіта таму ў нас па-ранейшаму існуюць віцебская і мінская школы мастацкага тэкстылю, якія не канкуруюць, а, наадварот, дзеляцца новымі адкрыццямі, досведам. Мы часта арганізоўваем сумесныя выстаўкі, дэманструем дасягненні ў галіне тэкстылю. Глядач можа ўбачыць, наколькі мы розныя, і ў той жа час знайсці агульныя рысы.

Магчымасць аналізаваць і параўноўваць творы аўтараў — важны складнік мастацкага ўспрымання выстаўкі. Але параўноўваць і вылучаць кагосьці складана, бо работы кожнага аўтара глыбокія, філасофскія. Прыемна, што прадстаўнікі нашай мастацкай супольнасці ўмеюць па-сапраўднаму сябраваць і дапамагаюць адзін аднаму развівацца. Менавіта гэты складнік — залог поспеху на шляху эвалюцыі і запатрабаванасці напрамку.

**Вікторыя АСКЕРА**

# САКРЭТЫ ЭСТОНСКІХ ІЛЮСТРАТАРАЎ

## можна раскрыць на выстаўцы «Жылі-былі…» у Мастацкай галерэі «Універсітэт культуры»


Війве Наор «Чырвоны Капялюшык», 2013 г.

Успамінаючы дзяцінства, складана не ўзгадаць момант, калі матуля прыемным, ціхім голасам чытала на ноч казкі. Гэтыя эпізоды абуджаюць цёплае пачуццё дабрыні, гармоніі. Калі чалавек сталее, усё больш мае патрэбу якраз у такіх успамінах. У Мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» дэманструецца выстаўка твораў эстонскіх ілюстратараў «Жылі-былі…» па матывах знакамітых казак братоў Грым з нагоды старшынства Эстоніі ў Савеце Еўрапейскага саюза. Калі ёсць жаданне паглыбіцца ў дзіцячыя ўспаміны, ілюстрацыі эстонскіх майстроў дапамогуць у гэтым.

Цягам апошніх двух гадоў выстаўка з поспехам экспанавалася ў розных гарадах Італіі. Там экспазіцыя прывабілвала не толькі маленькіх гледачоў, але і дарослых. Галоўны складнік папулярнасці выстаўкі — правільная канцэпцыя: сама ілюстрацыя — запатрабаваны кірунак ва ўсім свеце, а ў дадзенай сітуацыі мастакі не проста абралі тэму казак, але скіравалі ўвагу на гісторыях сусветна вядомых братоў Грым, зачапілі фантазію гледача.

На выстаўку ў Мінск прывезлі каля шасцідзесяці работ дваццаці эстонскіх мастакоў — як маладых, што толькі пачынаюць творчы шлях, так і вядомых аўтарытэтных аўтараў, якія ў свае гады пакінулі прыкметны след у сусветным мастацтве.

— Тэхнікі разнастайныя: выкарыстоўваем акварэль, гуаш, часта працуем са змяшанымі тэхнікамі, дзе задзейнічаны акварэль і, напрыклад, туш, — расказвае куратар выстаўкі, старшыня кніжнай графікі Эстоніі Війве Наор. — Такая мастацкая практыка дае аўтару больш свабоды, дапамагае адчуваць матэрыялы і спалучаць іх на адным палатне. Думаю, глядач заўважыць у карцінах не толькі інтэрпрэтацыю казкі — тут адлюстравана вельмі шмат дарослых тэм, якія аўтары калісьці перажылі самі.

Экспазіцыя захапляе колеравым рашэннем і вобразнасцю. Цікава прасачыць, як мастакі ўспрымаюць знешні выгляд герояў, падкрэсліваюць іх індывідуальнасць. Цікава параўнаць эстонскія ілюстрацыі з айчыннымі, увогуле прааналізаваць стылістыку і творчы погляд на ілюстрацыю.

Такія выстаўкі спрыяюць сямейнаму адпачынку. Дзецям цікава параўноўваць вобразы, пра якіх яны чыталі ў кнізе, а цяпер бачаць на ўласныя вочы. Вучацца аналізаваць. Дарослыя ж таксама паглыбляюцца ў філасофскі аналіз і знаходзяць новыя сэнсы ў такіх, здавалася б, вядомых гісторыях.

**Вікторыя АСКЕРА**

# ДАКУМЕНТАЛЬНЫЯ ПРАЕКТЫ АЛЯКСАНДРА МАРЧАНКІ



Марк Шагал «Блакітная рыба», 1957 г.

Акцёр і рэжысёр Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі Аляксандр Марчанка ўжо не першы год займаецца самастойнымі праектамі, ставіць не толькі вядомыя п'есы, але і творы новых аўтараў. Ён запрашае акцёраў з розных тэатраў, а часам і зусім розных людзей не са свету мастацтва. Часта ўсе яны ахвяруюць выхаднымі днямі і магчымасцю дадатковага заробку, захопленыя цікавымі тэмамі, цікавымі формамі і магчымасцю паспрабаваць сябе ў новым матэрыяле.

Аляксандр узначальвае Цэнтр беларускай драматургіі, кіруе выязнымі лабараторыямі для маладых драматургаў і добра ведае, як цяжка ім прабіцца на сцэны дзяржаўных рэпертуарных творчых саюзаў і аб'яднанняў, якія толькі гавораць пра падтрымку маладых талентаў. Марчанка рэальна ўсяляе ў іх надзею.

## КАЛЕКТЫЎНАЯ ЗАЯЎКА

Як рэжысёр, Аляксандр Марчанка выйшаў да гледачоў у камандзе са сваімі таварышамі, перш за ўсё разам з Дзмітрыем Багаслаўскім. Хтосьці называў тэксты іх спектакляў «новай драмай», але па вялікім рахунку гэта былі дакументальныя праекты, дзе пераважаў па-журналісцку сабраны матэрыял, запраўлены мастацкай вобразнасцю. Гэта былі заўсёды творы пра сённяшні дзень, вельмі актуальныя, часам рызыкоўныя, але тыя, што знаходзяць водгук у глядзельнай зале. Яго падтрымлівалі матэрыяльна і маральна Цэнтр візуальных і выканаўчых мастацтваў *Art Corporation*, даваў каштоўныя парады кіраўнік Маскоўскага «Тэатра.doc» Міхаіл Угараў, добразычлівыя крытыкі. Так з'явіўся праект *Patris* і спектакль, які ўвайшоў у рэпертуар РТБД, «Мабыць». Пра гэтыя спектаклі пісалі шмат. Магчыма, гэты досвед падштурхнуў рэжысёра да думкі працягваць працаваць у сферы дакументалістыкі. Бо эфект дакументальнасці валодае велізарнай рэчаіснасцю, значна большай, чым мастацкая вобразнасць. Апошняя больш выбарчая па эмацыйным уздзеянні, чым дакументальнасць. Але прыйшоў час спрабаваць сябе ў адзіночку, далучыўшы да прафесіі акцёра і рэжысёра яшчэ невядомую яму прафесію прадзюсара.

## САМАСТОЙНАЕ ПЛАВАННЕ

Напачатку паспрабавалі пашукаць грошай на пастаноўку і звярнуліся да папулярнага прынцыпу краўдфандынгу. Краўдфандынгавая платформа «Вулей» у інтэрнэце жвава адгукнулася на жаданне Марчанкі паставіць спектакль «Опіум» паводле п'есы маладога беларускага драматурга Віталя Каралёва. Яе вартасці, як часта ў нас здараецца, ацанілі за межамі дзяржаўных тэатраў краіны. П'еса створана вясной 2015 года ў рамках IV Міжнароднай драматургічнай лабараторыі. Па выніках глядацкага электроннага галасавання на інтэрнэт-партале «Культпрасвет» п'еса трапіла ў тройку лідараў. Адной з найлепшых прац «Опіум» прызнала і прафесійнае журы, у склад якога ўвайшлі тэатральныя крытыкі, менеджары і кіраўнікі тэатраў. У 2016 годзе «Опіум» увайшоў у шорт-ліст конкурсу новай драматургіі «Ремарка» (Расія).

Цікава, што нічога авангарднага ў п'есе няма, хоць яна спалучае пякучую рэальнасць і мары, крытычныя назіранні за грамадствам і самім сабой і нават элементы кітча. Узровень праўды пра яе вельмі высокі. Ён і падкупіў артыстаў з Купалаўскага тэатра, РТБД і Тэатра кінаакцёра сабрацца ў каманду, нават запрасіць мастака з Віцебска Андрэя Жыгура. На дэкарацыі і касцюмы сабралі (па тым часе) 45 мільёнаў рублёў.

У беларускім горадзе Рагачове жывуць два браты і маці. Старэйшы сын і маці страцілі працу і маленькі заробак. У роспачы, каб дапамагчы маці і малодшаму брату паступіць у ВНУ, старэйшы брат адпраўляецца на заробкі ва Украіну, дзе ідзе вайна. Вось што кажа сам Марчанка аб працы над «Опіумам»:

*— Чым рэпертуарны тэатр адрозніваецца ад незалежнага праекта? З аднаго боку, мы робім спектакль як хочам. З іншага боку, у рэпертуарным тэатры ў рэжысёра ёсць усё пад рукой, што неабходна для працы, а тут мы сумяшчаем карыснае з прыемным, таму што для гэтага няма спецыяльных службаў. Безумоўна, узнікаюць пэўныя цяжкасці, але гэта такая дробязь у параўнанні з магчымасцю ўявіць сябе на сусветнай арэне!*



Аляксандр Марчанка.

*П'еса знаходзіць водгук, таму што яна — пра нас сённяшніх. Усё, што ў ёй напісана, — праўда! Прызначэнне тэатра — не столькі забаўляць, колькі прымушаць гледача рэфлексаваць, задумвацца пра сваё месца ў жыцці...*

*Публіка ажыўлялася, калі героі абмяркоўвалі прыняцце ў Беларусі «закона аб дармаедах» і нядаўняе павышэнне камуналкі. Затаіўшы дыханне, зала сачыла за спрэчкай сяброў пра падзеі ва Украіне... Усё, што акружае нас на працы, дома, на вуліцы, — людзі, праблемы, размовы, — перанесена на тэатральную сцэну.*

Наступныя дзве рэжысёрскія працы Аляксандра Марчанкі былі ажыццёўлены на сцэне яго роднага РТБД. Гэта былі не п'есы, а дакументальныя праекты. «Гульня без правілаў і з невядомай мэтай» — фактычна сцэнарый на аснове тэкстаў альманаха «Маналог». У сувязі з 20-годдзем гэтага культуралагічнага выдання, якое выходзіць адзін раз на год, яго галоўны рэдактар Аляксей Андрэеў асэнсаваў назапашаны часопісам матэрыял у драматургічнай форме, абагульніў і сабраў з маналогаў аўтараў і сваіх тэкстаў дыялог двух персанажаў, які можа жыць у прасторы сцэны.

Пастаноўка зроблена ў форме гульні: героям за гадзіну і сорак хвілін трэба знайсці адказы на пытанні, якія іх турбуюць. Спектакль разлічаны на неабыякавых людзей. Напрыклад, да Мінска, яго архітэктуры, да спецыфікі нашага часу, да Радзімы... Да спроб зразумець, дзе наша месца ў чарадзе пакаленняў. Калі такой цікавасці няма, то і спектакль, хутчэй за ўсё, не закране.

Спектакль іграецца рэдка, таму што разлічаны на элітарную інтэлектуальную публіку. Тон задае прыма тэатра актрыса Людміла Сідаркевіч. Фактычна, яна ў адзіночку вядзе дзеянне і іграе свой монаспектакль.

Цяжка сказаць, ці будзе шчаслівым пракатны лёс у гэтага праекта. Важна іншае: ён падштурхнуў Марчанку на наступную працу з выдатнай, сапраўды народнай артысткай па званні і па сутнасці — Таццянай Мархель.

«Беларусь. Дыдактыка». Ужо ў самой назве заключаны ўдалы піяраўскі ход. Пры чым тут дыдактыка? Такое пытанне паўстане ў любога, хто прачытае на афішы расшыфроўку «Праект з удзелам народнай артысткі Беларусі Таццяны Мархель». Здаецца, вось ужо каму менш за ўсё пасуе грэчаскае слова «дыдактыка», што ў перакладзе азначае — «настаўніцкі». Яркая, свабодная, непрадказальная, добрая спявачка і самая беларуская актрыса ў нашай краіне Таццяна Мархель разам з музыкам Дзмітрыем Лук'янчыкам і ўдарнай устаноўкай спявае і расказвае. Пра сваіх бацькоў. Пра сваё месца ў гэтым жыцці. Пра адносіны з людзьмі і блізкім асяроддзем. Пра прыроду. На некалькіх экранах за яе спінай бяжыць дарога праз палі і пералескі. Музычны акампанемент нязвыкла дакладны і значны. Ён ідзе ад інструмента, якога не сустрэнеш на фальклорных святах у беларускай глыбінцы. Такі акампанемент прыйшоў да нас разам з этнаансамблем «Троіца», дзе пачынаў працаваць Дзмітрый Лук'янчык.

Аляксандр Марчанка даўно хварэе тэмай аповеду пра сапраўдную прыроду беларуса, пра аўтэнтычныя традыцыі, пра прыгажосць беларускай мовы. У папярэдніх спектаклях заўсёды імкнуўся выяўляць нашае, асабліва, што ідзе каранямі ў фальклор, народныя звычаі, а расцвітае цалкам сучаснымі вобразамі на дрэве жыцця. У гэтых вобразах няма звыклых лапцей і падвыпітых мужыкоў. Ёсць таленавітыя неардынарныя беларусы, цалкам канкурэнтаздольныя на еўрапейскім свяце жыцця.

Жанр спектакля — не аповесць, не прыпавесць. Гэта маналог канкрэтнай актрысы, звернуты да публікі. Тут нічога не выдумана. Гэта яе жыццё, паглыбленае ў класічную беларускую літаратуру і песні яе маці. Усё гэта ўзмацняе працэс зносін з гледачом, таму што тэатральная камунікацыя — гэта заўсёды, што называецца, «тут і цяпер».

Часам лічаць, што чалавек звяртаецца да маналогу, калі яму самотна і хочацца выказацца. Такі маналог можа быць у форме плачу або малітвы. Таленавітая Таццяна Мархель можа выказацца на сцэне ў любой форме. Ёй даступныя драма, камедыя, лірыка і трагедыя. Адна непаўторная асаблівасць гэтай актрысы: любая форма выказвання ў яе тыпова беларуская. У маналогу вялікае значэнне набывае асоба выканаўцы. Яго выгляд, яго голас, манера паводзіць сябе. Маналог дае магчымасць зазірнуць унутр асобы, прачытаць сцэнічную ігру як споведзь рэальнага чалавека.

Актрыса Таццяна Мархель можа многае сыграць і многае адлюстраваць. У спектаклі «Беларусь. Дыдактыка» яна амаль не іграе. Яна жыве ў літаратурным матэрыяле Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Івана Мележа, жыве ў сваіх успамінах пра дзяцінства. Насуперак дыдактыцы, яна ні на чым не настойвае, найменш жадае павучаць маладое пакаленне, якому адрасуе беларускія каштоўнасці. Яна ўяўляецца нават крыху пасіўнай, пацвярджаючы вядомую думку: рабі, што павінна, і хай будзе, што будзе. Такі мэсэдж больш даступны. Таццяна Рыгораўна пачынае спектакль, седзячы ў грымёрцы. Мы бачым яе на экране. Яна рыхтуецца да выхаду, адказвае на пытанне рэжысёра, пачынае расказваць пра бацьку, устае, падымаецца на сцэну, апавяданне пераходзіць у песню. Асаблівым дыяментам становіцца дыялог Сымона-музыкі з дзедам у знакавым спектаклі «Сымон-музыка», які Мархель бліскуча сыграла калісьці ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа. Магла б прачытаць і свой маналог маці, але для новага спектакля больш дакладным аказаўся іншы ўрывак.

Цяпер ужо два дакументальныя праекты Марчанкі ў рэпертуары Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, але рэжысёр працягвае пошукі.

## АД СЁННЯШНЯЙ ВУЛІЦЫ ДА САФОКЛА

І раптам грэчаскі драматург Сафокл з п'есай «Антыгона». Магчыма, Марчанка лічыць, што не дарос да класікі. Ён прыдумвае дакументальны праект па матывах п'есы «Антыгона» і запрашае гледачоў у мемарыяльны музей-майстэрню скульптара Заіра Азгура. У вялізнай зале на розных узроўнях — велізарныя бюсты і паўнавартасныя скульптуры Маркса, Леніна, Сталіна, Хрушчова, Пушкіна, Багдановіча, Коласа, Купалы. Застылы навечна натоўп вялікіх. Іх ужо даўно няма, як няма Сафокла і яго Антыгоны. З залы выходзяць па чарзе са сваімі маналогамі пра наша жыццё сацыёлаг, дырэктар, спартсменка, выдавец, кіраўнік, офісныя работнікі. І толькі кавалкі тэксту разам са складзенай яго музыкай выконвае прафесійная актрыса Дар'я Новік.

Спектакль *Anti[gone]* балансуе на мяжы антычнай трагічнасці і сучаснай дакументальнасці. Што можа быць агульнага паміж класічнай трагедыяй Сафокла і рэальнымі гісторыямі вядомых мінчан? Пераменнасць жыцця дыктуе новыя правілы, прымушае пераасэнсоўваць і сумнявацца, зрынуць герояў і выкрываць міфы, але чалавек, як і два тысячагоддзі таму, застаецца сам-насам са светам, прапаноўваючы яму свой боль, запал, крыўду.

Ідэя спектакля *Anti[gone]* паўстала на семінары «Каштоўнасці, адказнасць, будучыня», праведзеным па тэхналогіі аспен-семінара — культурна-сацыяльнага праекта, накіраванага на кансалідацыю лідараў з розных сфер, на зносіны і культурны дыялог. Удзельнікі семінара сталі героямі спектакля *Anti[gone]*. Рэальныя людзі расказваюць асабістыя гісторыі. Ці стануць яны пратаганістамі або галоўнай гераіняй застанецца Антыгона? *Anti[gone]* — спектакль паміж тэатрам і жыццём, паміж манументальнасцю трагедыі і далікатнасцю ўнутранага свету.

Атрымліваецца, што сюжэт амаль антычны, толькі ўбачаны ў адчыненым на вуліцу дзверы. Бо рэальныя людзі расказваюць пра рэальныя падзеі. І ў кожнага свая тэма. Невядома, ці будзе Аляксандр Марчанка працягваць свае дакументальныя праекты. Бо нехта ўжо сумняваецца ў існаванні дакументальнага тэатра. Запісаны, вывучаны, сыграны акцёрам тэкст — хіба гэта дакумент? З іншага боку, усё адбываецца сёння, тут, цяпер і захоплівае сацыяльнай вастрынёй. Заўтра гэта, магчыма, састарэе. І тады Аляксандр Марчанка будзе ставіць якую-небудзь правераную часам класічную п'есу. Хто ведае?

**Таццяна АРЛОВА**



Марк Шагал «Мацярынства з кентаўрам», 1957 г.

# СПІС НА ЛЕТА

## У ліпені глядзім прыгожае, разумнае і нечаканае кіно

**1** **«Фатальная спакуса»** — адна з самых доўгачаканых сёлетніх стужак. Па-першае, знятая яна талентавітай **Сафіяй Копалай**, кожная праца якой прымушае на пэўны час забыцца пра тое, што існуе яшчэ нейкае жыццё акрамя кінематаграфічнага. Па-другое, рэжысёр атрымала за гэты фільм Залатую пальмавую галіну на Канскім кінафестывалі. Па-трэцяе, кіно абяцае быць неймаверна прыгожым і «зорным»: галоўныя ролі выконвалі любімыя акцёры Копалы, якія ўжо працавалі з ёй раней, і проста выдатныя артысты.

«Фатальная спакуса» знятая паводле рамана пісьменніка Томаса Кулінана: дзея пачынаецца ў 1864 годзе ў Вірджыніі падчас вайны Поўначы і Поўдня ў будынку школы, якая цяпер стала пансіёнам-прытулкам. Настаўніца вучыць маладых дзяўчат таму, што, па яе словах, прывядзе іх да «спакойнага і шчаслівага жыцця», і вось у такую ідылію ўрываецца ірландскі салдат-найміт… Тыя, хто ўжо паспеў паглядзець фільм, адзначаюць, што гэта ў сваім родзе працяг «Нявінніц-самагубцаў» Копалы, а сюжэт стужкі кожны раз будзе паварочвацца ў горшы для герояў бок. Сама ж Копала адзначыла, што асноўная ідэя фільма — прадставіць, як пачуваюцца жанчыны, «якія атрымалі выхаванне лэдзі і вымушаныя выжываць у такі складаны час».

**2** На фестывалі «Сандэнс», вядомым любоўю да незалежнага кіно, **«Берлінскі сіндром» Кейт Шортлэнд** вельмі чакалі. У аснову стужкі пакладзены аднайменны раман Мелані Ёэстэн. Крытыкі пішуць, што адпачыць ці хоць бы расслабіцца падчас прагляду не атрымаецца, бо фільм не проста трымае ў напружанні, але часам прымушае нервавацца і жахацца (нездарма ж гэта псіхалагічны трылер!).

Галоўная гераіня, аўстралійская журналістка Клэр, едзе ў Берлін адна. Каб выпрабаваць сябе, зразумець, чаго яна хоча, і паздымаць закінутыя нямецкія будынкі. Не абыходзіцца і без закаханасці ў настаўніка Эндзі, які працуе ў нямецкай школе. Здавалася б, падарожжа абяцае быць чароўным, але Эндзі становіцца не каханым, а выкрадальнікам: хавае Клэр у сваёй кватэры з куленепрабівальным шклом і сыходзіць. Цяпер галоўнымі пытаннямі дзяўчыны сталі выпадковасць сустрэчы з немцам і таямніцы яго падсвядомасці. Рэжысёр зрабіла акцэнт на пачуццях і памкненнях галоўнай гераіні, таму «Берлінскі сіндром» можна назваць яшчэ і метафарай залежных адносін.

**3** *TheatreHD* запрашае на **«Буру»** ў пастаноўцы Шэкспіраўскага тэатра «Глобус». П'еса займае важнае месца ў вывучэнні асобы Шэкспіра, бо, на думку большасці даследчыкаў, гэтая апошняя п'еса — разгорнутае завяшчанне драматурга як тэатральнага дзеяча, разыгранае ў асобах, разважанне. Да таго ж «Бура» — адзіны твор Шэкспіра, дзе захаванае трыадзінства месца, часу і дзеяння, і самая багатая на падтэксты п'еса, якая дапускае мноства трактовак.

Ворагі пазбавілі італьянскага чараўніка Праспера ўлады і багацця, выгналі з горада на зачараваны востраў. Аднойчы на гарызонце з'яўляецца ветразь карабля, на якім плыве чалавек, што выдаў Праспера, і чараўнік пры дапамозе вядзьмарства выклікае на моры буру... Гісторыя працягваецца ўжо на чароўным востраве Праспера і набывае нечаканыя абароты. Падчас прагляду будзе і каханне, і нянавісць, і чараўніцтва — словам, тое, што ў сукупнасці дадае дзеянню неверагодны цікавасці.

# АПОШНІ ІСПЫТ?

**Рэперы і няўдачнікі, выкладчыкі і вучні, бацькі і дзеці, хлопчыкі і дзяўчаткі… Стасункі, якія заўсёды вакол нас, знайшлі адлюстраванне ў выпускных работах былых студэнтаў БДАМ, а цяпер прафесійных рэжысёраў.**

Так, можа падацца, што расказваюць яны не пра самае надзённае і важнае, але ўсе гэтыя сувязі, моцныя і выпадковыя, абавязкова знойдуць свайго ўнікальнага гледача.

На апошнім экзамене маладых кінематаграфістаў сабралася досыць гледачоў, нягледзячы на тое, што фільмы паказвалі раніцай. Але для сапраўдных аматараў новага беларускага кіно гэта не стала перашкодай: апошні экзамен прымалі генеральны дырэктар кінастудыі «Беларусьфільм» Ігар Поршнеў і першы намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Ірына Дрыга, якая прапанавала паразважаць, што ж такое сёлетні выпуск — «апошняя надзея ці паспяховы старт новага вялікага карабля?» На жаль, да новага айчыннага кіно мы заўсёды чамусьці ставімся як да свята, прычым да юбілейнага: чакаем вельмі моцна, сочым за развіццём гісторыі і нарэшце глядзім, ужо не так заўзята.

Цяпер выпускнікоў Акадэміі мастацтваў чакае размеркаванне на кінастудыю «Беларусьфільм» і ў прыватныя кінастудыі, за плячыма некаторых рэжысёраў ужо ёсць поўнаметражныя стужкі і шэраг перамог на фестывалях. На экзамене ж можна было ўбачыць іншае — кароткі метр, прычым не новы і часам не самы лепшы, а проста каштоўны для стваральніка. Усе без выключэння фільмы




Кадр з фільма «Брача» (рэж. Кірыл Ярохін).

апавядаюць пра стасункі: рэальныя, метафізічныя, несапраўдныя і нечаканыя. І з васьмі невялікіх стужак толькі адна знятая па творы беларускай літаратуры…

«Дугін» Сяргея Дзмітрэнкі (які з'яўляецца адным з рэжысёраў карціны «Party-zan фільм») створаны па матывах «Радавых» Дударава. Занадта паспяховы малады герой пачынае выклікаць падазрэнні — яго жонцы напісалі, што ён загінуў на вайне. На гэтым усё, бо стужка будуецца вакол дыялогу Дугіна з іншым афіцэрам (акцёрскае пытанне — асобнае) на фоне цьмянай і нямой зімы, і, канешне, твор Дударава ў 15 хвілін не ўмясціць, асобы не раскрыць, адзінае, пра што глядач у выніку даведаецца: усё дрэннае, зробленае Дугіным, адбывалася з-за кахання. Магчыма, і з пачуццяў рэжысёра да беларускай літаратуры зможа нарадзіцца якасная поўнаметражная экранізацыя.

Каханне падштурхоўвае на незразумелыя ўчынкі і маленькага хлопчыка, героя фільма «Цёмная рака, цяжкія вёслы», які Арцемій Калінін зняў па апавяданні Кэндзабура Оэ. Японская гісторыя арганічна выглядала ў беларускіх рэаліях, дзе маленькі хлапчук, якога бацькі пакінулі дома, закахаўся ў прывабную дарослую суседку. Рэжысёр узняў у фільме, магчыма, не самую важную, але цікавую тэму: закаханы безабаронны хлопчык можа паводзіць сябе як бясстрашны дарослы мужчына, хоць і з налётам наіўнасці. Любоўны трохкутнік становіцца пачаткам драмы; хлопчык замест школьных заданняў спрабуе знайсці каханне, але ў яго ўзросце з такімі складанасцямі не разабрацца; жыццё параўноўваецца з веславаннем па цёмнай рацэ.

Філасафічнасць блізкая і «Гульням са смерцю» Алесі Камяковай. Нашы рэжысёры ўвогуле любяць разважаць на тэму жыцця і смерці, але ў «Гульнях са смерцю» атрымалася казачна-фантастычнае разважанне, ад гэтага не менш сур'ёзнае і дарослае. Ніякай смерці з касой, ніякіх пакут і слёз. Калі вы не ведалі, то смерць — элегантны мужчына ў чорным кацялку з пясчаным гадзіннікам, зусім не жахлівы. І сэнс у фільме не ў тым, што смерць абавязкова кагосьці забірае. Смерць — таксама праца, і камусьці даводзіцца яе выконваць. І часам ад гэтага хочацца адпачыць: папіць несапраўднай гарбаты з цацачных кубачкаў, упрыгожыцца ружовым пер'ем і, магчыма, упершыню ў жыцці (вось дык каламбур) рассмяяцца.

Што лёгка можа прэтэндаваць на сацыяльную рэкламу, дык гэта «Кактус» Андрэя Кашперскага, які атрымаў Гран-пры на міжнародным кінафестывалі ў Омску. Але звычайна ў рэкламе ўсё занадта прыгожа, тут жа — амаль ніякай лірыкі. Вечнае пытанне бацькоў і дзяцей адкрываецца героям фільма праз маленечкі, але востры кактус.

Амаль скончаная праца над альманахам «Мы» на «Беларусьфільме», стужкі для якога ствараюць маладыя рэжысёры. Кірыл Ярохін зрабіў свой унёсак кароткаметражным фільмам «Брача» (ужо не першай і, спадзяёмся, не апошняй стужкай пра недаследаваную айчынную вулічную культуру), знятым паводле сцэнарыя Дзмітрыя Багаслаўскага. Героямі рэжысёра сталі паспяховы рэпер і супрацьлеглы яму паэт-аматар. Абодва — згубленыя, але ў рознай ступені, абодва не ведаюць, што робяць, і любяць марыць ды філасофстваваць. Акрамя чалавечых гісторый у стужцы шмат начнога Мінска, юнацкага максімалізму, шчырых размоў і абмену вельмі рознымі культурамі (вершамі і рэпам).

Пра стужкі «Апошні шанц» Ігара Васільева, «Юбілей» Арсенія Ільіных і «Мой брат» Нэлы Васілеўскай (якая, дарэчы, заняла першае месца на XVIII Міжнародным фестывалі студэнцкіх фільмаў «Залатая пяцёрка») «ЛіМ» ужо пісаў. Без адносін зноў жа нікуды: пачуццё віны старога трэнера за смерць свайго вучня, жанчына, якая не можа дачакацца родных ні на адзін свой юбілей, — гэтыя героі нібыта з розных полюсаў, але неверагодна адзін да аднаго падобныя. Хочацца, каб гэтае падабенства заўважыў і беларускі глядач, а калі будзе магчымасць здымаць, то можна будзе паглядзець наша маладое кіно на вялікім экране.

# ДЫЯЛОГ НА ПЛЁНЦЫ

**Кінематаграфічныя тэмы бываюць рознымі, гэта не навіна, але часам яны гучаць вельмі сумна для гледача. Праект «Кінадыялог» вырашыў паразмаўляць з рэжысёрамі, іх героямі і аўдыторыяй на адну з такіх тэм.**

У Гістарычнай майстэрні, якая знаходзіцца на месцы былога Мінскага гета, прадставілі стужкі, знятыя ўдзельнікамі праекта «Кінадыялог». Майстэрня сацыяльнага кіно працавала над рэалізацыяй праекта з пачатку снежня 2015 года, а завяршыла «Кінадыялог» сёлета: цягам гэтага часу кінематаграфісты шукалі шляхі да сур'ёзнага дыялогу на тэму ўзаемадзеяння былых ахвяр нацызму і моладзі і самі ў гэтым дыялогу ўдзельнічалі пад куратарствам рэжысёраў-дакументалістаў Віктара Аслюка і Вольгі Дашук. У выніку праект атрымаўся карысным для ўсіх, хто браў у ім удзел: рэжысёры атрымалі цікавых герояў, іх гісторыі і досвед у сферы кінематографа, а іх героі змаглі пагаварыць з моладдзю і выказаць пра тое, што іх хвалюе, на камеру.

Што можна было ўбачыць на экране? У зборнік праекта ўвайшлі 8 дакументальных стужак, якія, як адзначыў каардынатар праекта «Кінадыялог» Канстанцін Верабей, і планавалася зрабіць менавіта пра вязняў канцлагераў: гэтыя людзі перажылі вельмі драматычныя падзеі.

Фільм «Сын за бацьку» Аляксандра Свішчанкова расказвае пра этнічнага немца і яго пакутлівыя думкі пра сям'ю і Радзіму, Дзмітрый Федаровіч і карціна «157» дзеляцца развагамі пра былыя памылкі, а Ліна Мядзведзева вырашыла паказаць «Мінскага кінааматара», прайсціся з ім па сталіцы і даведацца пра асабістае. Кожны год 12 гадзін свайго жыцця герой Максіма Шведа выдаткоўвае на дарогу ў лагер смерці Біркенаў, а ў стужцы Максіма Багдановіча «Шнары» глядач пазнаёміцца з трыма героямі, іх гісторыямі і трыма канцлагерамі. Менш за ўсё мы ведаем пра канцлагер Азарычы, якім рэжысёры Сяргей Навіцкі і Кацярына Нікановіч прысвяцілі два фільмы, дзе можна атрымаць адказы на пытанні, хто збіраецца каля помніка загінулым, якія падзеі адбываліся ў месцы смерці і як за некалькі дзён існавання лагера было знішчана 20 тысяч чалавек.

Апошні прэзентаваны фільм Алены Сілуцінай «Квэст "Лета 41-га"». Акрамя героя, які быў вязнем канцлагера, рэжысёр знайшла яму маладога сябра — школьніка, які любіць гуляць у камп'ютарныя гульні пра вайну, і дала ім магчымасць «успомніць» ваенныя дзеянні на полі бою. Абсалютна розныя людзі, адзін з якіх стаў ахвярай вайны, а другі шчыра лічыць, што сцяг на нямецкі Рэйхстаг прынёс беларус, бо так было ў відэагульні, цяпер павінны разам супрацьстаяць ворагу. Вядома, кіно нельга назваць ідэальным — усё ж праект у першую чаргу вучэбны, а дакументальнае кіно з першай спробы мала каму скараецца.

Але кожная са стужак так ці інакш нагадвае, што не трэба ставіцца да ветэранаў вайны проста як да памяці. Гэтыя людзі жывыя, яны хочуць чалавечай цеплыні і шчырай размовы. І менавіта такую задачу паставілі арганізатары ў пачатку праекта — сацыялізаваць тых, хто стаў для сучаснікаў жывым помнікам, і навучыць моладзь паважаць не проста ваенныя подзвігі, але і саміх людзей.

**Матэрыялы паласы падрыхтавала Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# АВАНТУРЫСТЫ,
## ці Як здабываўся «Гілд»



Марк Шагал «Бачанне Парыжа», 1952 г.

Валодзя ўстаў з-за стала, і мы накіраваліся да выхаду. Астатнія хлопцы разам з Лідай паелі і потым на вуліцы яго чакалі гадзіны дзве, мусіць. Узняліся мы ў аднамесны нумар да Санцьяга. Яны паміж сабой размаўляць як трэба не могуць — я перакладаў. У Санцьяга было два інструменты: электрагітара і простая гітара. І вось яны з Валодзем пачалі іграць разам, імправізаваць: Валодзя — на электрагітары, а Санцьяга — на акустычнай. Потым мяняліся… Я заслухаўся. Гэта быў нейкі цуд! Яны так адзін аднаго адчувалі! Выдатны ансамбль! Валодзя ў нейкі момант павярнуўся да мяне:

— Міша, як ён грае! Якая ў яго манера! — захоплена так, з прыдыханнем сказаў.

Ну, сапраўды. Нашы ж як ігралі? Па адным гуку чаплялі медыятарам. А Санцьяга іграў акордамі. Скарыстоўваў медыятар і іграў акордамі. Валодзя быў узрушаны:

— Такога я яшчэ не бачыў!

Музіцыравалі ўдваіх яны даволі доўга. Санцьяга павінен быў вырашыць, прадаваць Валодзю інструмент ці не. І, калі яны скончылі, ён адклаў гітару і кажа:

— Гэту гітару я ўжо абяцаў аднаму хлопцу ў Маскве. Але не прадам яму, бо ён просты, звычайны музыкант. А вось гэты хлопец (паказвае на Валодзю) — гэта музыкант экстра-класа, толькі яму і прадам гэту гітару!



Уладзімір Мулявін у Празе.

Яму было шкада аддаваць свой інструмент музыканту, які, відаць, значна саступаў Валодзю ў прафесійным плане. Гэта была шыкоўная гітара! І ён сказаў, што толькі гэтаму хлопцу прадасць, бо ён выдатны, варты музыкант і яму патрэбна такая гітара. Але адзінае — у іх былі далейшыя гастролі ў Кіеве і заключны канцэрт у Маскве. І яму трэба было дапрацаваць на гэтай гітары гастрольны тур па СССР. Мы дамовіліся, што я прыеду за ёй у Маскву. На развітанне Санцьяга сказаў:

— Грошы я пакуль браць не буду. У Кіеве пагляджу антыкварыят і, калі што-небудзь спадабаецца, пазваню. Тады і прывязеш грошы.

Я даў яму свой нумар тэлефона, і праз дзень ці два ён звоніць:

— Міша, ёсць справа. Я тут прыглядзеў цікавую рэч, якую хачу купіць. Прывязі мне 2000 рублёў!

Гэта была вялізная сума! Мы ж тады атрымлівалі па 100 — 120 рублёў! Я званю Валодзю: так і так, усё яму патлумачыў. Сустрэліся, і яны з Лідай мне ўручаюць гэтыя грошы. Ліда доўга іх лічыла пры мне. І дома, калі я прывёз, зноў лічылі мае жанчыны. І на другі дзень я вылецеў у Кіеў.

Прыляцеў, узяў таксі. Таксіст ведаў, дзе выступае Рафаэль са сваім ансамблем, і прывёз мяне ў Палац культуры «Украіна». Там рэпеціравалі музыканты, і адзін з іх сказаў, што пасля рэпетыцыі яны на машыне едуць у гасцініцу, дзе жыве Санцьяга, і прапанаваў мяне туды падвезці. Паехалі ў гэту гасцініцу, сустрэлі Санцьяга. Я зайшоў да яго. Мы трохі пасядзелі, пагаварылі. Я аддаў яму грошы, ён таксама іх пералічыў. І я застаўся ў Кіеве на пару дзён. Жыў у гасцініцы, у нумары ў Санцьяга. Ён мне выдзеліў канапу, падушку. Мы з ім гулялі па Кіеве, схадзілі ў рэстаран. Я яму перакладаў, дапамагаў размаўляць з мясцовымі. У рэстаране Санцьяга зноў угледзеў «антыкварыят»: міма нас прайшлі афіцыянты з падносамі, на якіх стаялі шклянкі ў падшклянках. Гэтыя падшклянкі былі вельмі прыгожыя, вытанчаныя. Ён іх праводзіў жаданым позіркам:

— *Miguel, como me gusta!* — Як мне гэта падабаецца! Прыдумай што-небудзь, я хачу гэта набыць!

Я падазваў афіцыянтку. Кажу ёй:

— Гэты чалавек — гітарыст ансамбля Рафаэля.

Яна адразу вочы закаціла.

— Яму вельмі спадабаліся вунь тыя падшклянкі на падносе. Спытайце, ці можна іх у вас купіць?

— Пачакайце!

Яна пайшла (відаць, каб пагаварыць з загадчыцай). Вяртаецца:

— Усё, — кажа, — можна купіць!

І выносіць цэлы камплект, 6 штук у вялікай кардонцы. Санцьяга быў задаволены, што набыў рэдкую рэч, якая яму вельмі падабалася. Я, шчыра кажучы, ніколі б не купіў гэтыя падшклянкі! Але ён любіў даўніну.

Мы дамовіліся, што 10 кастрычніка будзе развітальны канцэрт у Маскве, і я пад'еду туды і забяру гэту гітару. Сам Валодзя не мог паехаць, бо ў той дзень, калі ў Рафаэля быў апошні канцэрт у Маскве, «Песняры» выляталі на гастролі ў Сібір. Таму Мулявін асабіста не сустракаўся ні з Рафаэлем, ні з Санцьяга. Ён адправіў у Маскву разам са мной свайго адміністратара Грышу Шнэйдэрмана. Той, паспадзяваўшыся на авось, не купіў загадзя білеты на цягнік. Мы прыехалі проста на вакзал, а там народу — процьма, чарга. Ён ледзь праціснуўся да касы і ледзь купіў гэтыя білеты! Перад нашым ад'ездам Валодзя з Лідай перадалі для Санцьяга сувенір. Я ім расказаў, што Санцьяга вельмі любіць старадаўнія рэчы, і Ліда недзе вышукала рарытэтны адбітак далоні з бронзы. Гэты старадаўні прадмет, напэўна, меў нейкае дачыненне да рэлігіі. І вось мы з гэтым Шнэйдэрманам селі ў цягнік і паехалі забіраць гітару.

Прыбылі ў Маскву. Рафаэль выступаў у Тэатры эстрады. Я зноў з ім сустрэўся, пры гэтым хваляваўся і дрыжаў як дзяўчынка. Разумеў, што побач са мной стаіць сусветная зорка. Для мяне ў той час гэта быў спявак нумар адзін. Я настолькі быў у захапленні ад яго шыкоўнага голасу! А ён яшчэ іншы раз падчас спеваў адыходзіў у бок і спяваў без мікрафона. Галасіну меў што трэба! Ён быў такі худзенькі, з доўгімі валасамі... Сексуальны мужчына, між іншым! І фанаткі шалелі. Вы не ўяўляеце, што рабілася ў той час, калі Рафаэль быў на гастролях! Дзяўчаты з усяго Савецкага Саюза: з Масквы, Ленінграда, Мінска, Кіева і іншых гарадоў — ездзілі за ім па ўсёй краіне. Дзе ён, там і яны. Вось, напрыклад, ён снедае ў рэстаране, і дзяўчаты па адной сядалі вакол за іншыя сталы і не давалі нікому прайсці да яго, каб не перашкаджаць есці. Вось такія фанаткі. Дарэчы, амаль гэтак жа потым было і ў «Песняроў». Ім таксама фанаткі не давалі праходу!

І вось Санцьяга на апошнім канцэрце павінен быў аддаць мне гэту гітару. Мы сустрэліся. Я перадаў яму прэзент ад Валодзі. Ён узяў яго ў рукі, глядзеў-глядзеў, потым пальцы паклаў туды і пачаў шаптаць нешта. Вельмі быў задаволены і крануты, што атрымаў такую цудоўную старадаўнюю рэч.

Пасля канцэрта нам трэба было нейкім чынам вынесці гэту гітару, каб ніхто не заўважыў. А там жа народу процьма, і як гэта зрабіць? Ніхто ж не павінен ведаць! Не так усё проста было, бо ўся Масква білася за гэту гітару, многа хто хацеў яе купіць. Магло быць усё што заўгодна! Мы дамовіліся з гэтым Шнэйдэрманам, што ён будзе чакаць на вуліцы ў машыне. Каб мы выйшлі і адразу ж пагрузілі гітару ў машыну. І вось ідзём з Санцьяга. Ён нясе гітару, а я качу ўзмацняльнік на колцах. Праціскаемся паміж натоўпам. Людзей — процьма: справа, злева, а мы ідзём паміж іх. І ўсе на нас глядзяць… Я дрыжаў ад хвалявання. Не дай бог штонебудзь здарыцца! Выходзім на вуліцу. Выглядаю Шнэйдэрмана і не бачу, дзе ён. Гляджу-гляджу… Хвіліна-дзве — і ён нарэшце выходзіць з машыны. Я ўздыхнуў з палёгкай. Мы хутка пагрузілі ў багажнік гітару і ўзмацняльнік. І ўсё. Грыша адразу з гэтай гітарай паляцеў на гастролі ў Сібір, а мы з Санцьяга селі ў таксі і паехалі ў гасцініцу. У мяне заставалася пара гадзін да цягніка. Мы вельмі цёпла пагаварылі, доўга развітваліся, абняліся па-братэрску…

Праз некаторы час ён напісаў мне ліст, у якім распытваў пра гітару. Абяцаў даслаць схему і інструкцыю. Я адказаў, што з гітарай усё ў парадку, што Валодзя вельмі задаволены і шчыра дзякуе яму і мне за тое, што нарэшце набыў сапраўдны інструмент.

Володя вельмі доўга іграў на гэтым «Гілдзе», а потым усё ж прадаў. І не раз гаварыў, што вельмі шкадаваў пра гэта...

**P. S.** У кнізе Людмілы Крушынскай нечакана для сябе знайшла працяг гэтай гісторыі, што распавёў Анатоль Кашапараў (праўда, у кнізе Анатоль Яфімавіч памылкова называе гітару «Гілд» «Гібсанам». Вонкава і сапраўды гітары гэтых фірм нечым падобныя, вось многія і блытаюць). Такім чынам, у 1976 годзе, падчас гастроляў «Песняроў» у Злучаных Штатах, на адной з прэс-канферэнцый, журналісты спыталі ў Мулявіна: «Мы бачым у вас амерыканскую гітару «*Guild*». Адкуль яна ў вас?

Мулявін не прымусіў доўга чакаць.

— Ды ў нас гэтымі гітарамі завалены ўсе ўнівермагі! — не міргнуўшы вокам, адказаў ён. — У продажы толькі «*Guild*» і ёсць!..

**Вольга БРЫЛОН**



«Песняры».

Заканчэнне. Пачатак у № 27.

# КАХАННЕ ЗЯМНОЕ І НЯБЕСНАЕ



*«Плафон парыжскай оперы», 1965 г.*

Выстаўка напасрэдна звязана з кнігай. Прадстаўленыя ў экспазіцыі літаграфіі былі выкананы Маркам Шагалам пераважна ў 1950 — 1960-я гады як ілюстрацыі да розных выданняў, прысвечаных самому Шагалу. Мастак выконваў ілюстрацыі да тэкстаў пра сябе, ілюстраваў самога сябе. Адсюль увесь найбагацейшы шэраг сюжэтных тэм, які вылучае творчасць Шагала: пейзажы Віцебска, Парыжа, Сен-Поль-дэ-Ванса, закаханыя пары, маці і дзіця, фантастычныя істоты і сімвалічныя жывёлы, музыканты і, вядома, вобраз самога майстра.

— Арганізацыя выстаўкі да дня нараджэння Марка Шагала ў Нацыянальным мастацкім музеі — сімвалічная падзея, — адзначыў на адкрыцці экспазіцыі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Францыі, пастаянны прадстаўнік Рэспублікі Беларусь пры ЮНЕСКА Павел Латушка. — З творчасцю віцебскага мастака як пасол Беларусі ў Францыі я сустракаюся пастаянна. Калі толькі прыехаў у Францыю, мне трапіў у рукі газетны альбом, у якім быў змешчаны вялікі артыкул, прысвечаны Марку Шагалу. Дарэчы, у артыкуле было падкрэслена, што мастак нарадзіўся ў Беларусі. Я ўзрадаваўся, бо часта кажуць, што ён з'явіўся на свет у іншых краінах, належыць іншым народам. Марк Шагал нарадзіўся на беларускай зямлі, але адгукаецца па ўсім свеце. Імя майстра, безумоўна, фарміруе імідж нашай краіны, робіць яе пазнавальнай. Як пастаянны прадстаўнік Беларусі пры Сусветнай турысцкай арганізацыі, ведаю: імя Марка Шагала вельмі прываблівае турыстаў, ім цікава ўбачыць радзіму мастака, наведаць прыгожы Віцебск. Падчас наведвання шэрагу выставак Марка Шагала ў Парыжы, Ніцы, было цёпла на сэрцы, бо бачыў яго творы, звязаныя з Віцебскам, які ён вельмі любіў, які яго натхняў, быў імпульсам для творчасці. Мы павінны гэтым ганарыцца і праслаўляць імя Марка Шагала як прадстаўніка не толькі беларускай культуры, але ж і сусветнай.

«У мастацтве, як і ў жыцці, усё магчыма, калі ў аснове — любоў», — гэтае знакамітае выказванне Марка Шагала чытаецца практычна ва ўсіх яго творах. Ён быў мастаком-гуманістам, які не толькі любіў жыццё ва ўсіх яго праявах, але і рамантызаваў яго ў мастацтве, яркімі фарбамі ўслаўляючы каханне як чароўны дар. Каханне зямное і нябеснае для яго некалькі дзесяцігоддзяў атаясамлівалася з рэальным абліччам жонкі Бэлы, якая ў творах мастака была ўвасабленнем музы, нявесты, выдатнай Дамы. Але была і любоў да сваёй радзімы, роднага Віцебска і дарагога Парыжа.



*«Канцэрт», 1957 г.*

Падчас прагляду экспазіцыі «Колер кахання» глядач у поўнай меры можа адчуць эмацыянальнасць і дабрыню твораў Шагала. Яны быццам бы запрашаюць паўдзельнічаць у сюжэце, зразумець перажыванні аўтара, даведацца пра схаваныя ідэі. Работы майстра немагчыма абмінуць: яны захапляюць чароўнай атмасферай і гармоніяй, якую праз усё жыццё пранёс унутры ўнікальны творца.

— Гэтая выстаўка — наша свята, якое дазваляе канстатаваць, што мы становімся абсалютна паўнавартаснай еўрапейскай нацыяй, — падкрэсліў старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца. — За дваццаць пяць гадоў прайшлі шлях, які іншыя народы адольваюць стагоддзямі. Сведчанне гэтаму — Марк Шагал, які цалкам атаясамліваецца з нашай зямлёй. Мы далі свету такія вялікія імёны, як Ігнат Дамейка, Казімір Семяновіч, Адам Міцкевіч. Марк Шагал — таксама наш вялікі гонар. Не трэба пра гэта забывацца. Суседзі, не саромячыся, іншым разам прысвойваюць сабе тое, што належыць нам. Мы, вядома, гатовы дзяліцца нацыянальнымі здабыткамі з усім светам, але ж не забывацца пры гэтым, што яны — нашы! Услаўляючы Шагала і славутыя імёны беларускай зямлі, мы развіваем нацыю і замацоўваем сябе праз гэтых асоб у вечнасці.

Адкрыццё праекта атрымалася маштабным і яркім. Падчас цырымоніі ў Нацыянальным мастацкім музеі начальнік мытні «Мінск-2» Андрэй Міхалькевіч перадаў кіраўніцтву музея чорна-белую гравюру 1920-х гадоў — партрэт Марка Шагала ў выкананні нямецкага мастака Германа Штрука. Цікава, што гравюра была затрыманая супрацоўнікамі мытні пры спробе незаконнага перамяшчэння праз мяжу. Дарэчы, дзякуючы Герману Штруку ў жыцці Марка Шагала пачаўся адзін з галоўных перыядаў творчасці. Яны пазнаёміліся ў Берліне. Нямецкі мастак уваходзіў у лік тых, хто ствараў замалёўкі на тэрыторыях, акупаваных немцамі падчас Першай сусветнай вайны. А яшчэ ён быў вельмі таленавітым педагогам, які працаваў у тэхніцы літаграфіі і афорта. Марк Шагал стаў яго вучнем.

**Вікторыя АСКЕРА**

**Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.**

## *Культурны ракурс*



**Ваколіцы Барысава сталі цэнтральным месцам для ўвекавечання падзей, якія адбываліся на Міншчыне ў 1812 годзе. Менавіта тут, у лістападзе таго ж года, падчас пераправы праз раку Бярэзіну каля вёскі Студзёнка загінула значная частка войска Напалеона, і вялікая армія перастала існаваць як арганізаваная баявая сіла. Бярэзінская пераправа блізу Барысава, па сведчаннях гісторыкаў, лічыцца самай змрочнай старонкай гісторыі напалеонаўскіх войнаў.**

**Да 100-гадовага юбілею бярэзінскай пераправы побач з вёскай Брылі пачалі будаваць мемарыяльны комплекс у гонар расійскіх воінаў. Ініцыятарам узвядзення помніка выступіў камандзір 108-га пяхотнага Саратаўскага палка, палкоўнік, а пасля генерал-маёр Яўген Міладановіч. Праект мемарыяльнага комплексу выканаў выпускнік Віленскага пяхотнага вучылішча і капітан гэтага ж палка Іван Дземякоў. Ён жа кіраваў атрадам, вылучаным для будаўніцтва помніка, урачыстае адкрыццё якога адбылося 15 мая 1913 года.**

**Абеліск стаяў на пастаменце, складзеным з цаглін, і ў плане меў форму крыжа. Белыя крыжы адлюстроўваліся і на яго тарцах. У кутках пастамента знаходзіліся чатыры паўкруглыя тумбы-аналоі з выявамі разгорнутых кніг. На іх старонках прыводзіліся біблейскія выслоўі і выказванне Аляксандра Суворава: «Кого из нас убьют — царствие небесное. Живым — слава, слава, слава!». На цэнтральным гранітным блоку пазалочанымі літарамі быў высечаны надпіс: «Доблестным предкам — егерям 7-го, 10-го и 12-го полков, павшим в сражении на реке Березине 15, 16 и 17 ноября 1812 года. Благодарные потомки: 93-й Иркутский, 112-й Уральский, 108-й Саратовский пехотные полки».**

**У 1920 годзе, падчас савецка-польскай вайны, абеліск быў разбураны. Гранітную пліту з надпісам закапаў на сваім участку, размешчаным поруч з помнікам, Іван Дарафееў. У 1936 годзе ён перавёз блок на сваю сядзібу, дзе той праляжаў чвэрць стагоддзя. У 1992 годзе манумент Дземякова аднавілі ў ранейшым выглядзе. Адной з частак абеліска стаў гранітны блок, захаваны Дарафеевым. Помнік наноў адкрылі 6 снежня 1992 года ў гонар 180-годдзя бярэзінскай пераправы. У адрозненне ад варыянта 1913 года, на ім усталявалі дадатковыя мемарыяльныя дошкі.**

**Рыма МІКАЛАЕВА**

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***


**Выходзіць з 1932 года**

**16 +**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**





**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
13.07.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1506.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 2590

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686